# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1973
Красавік-
Травень-
Чэрвень
Год XXI
№ 2 (136)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1973 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — £ 1-00.

У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

**УВАГА**: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.

ON GOD'S HIGHWAY

Year XXI April—May—June № 2 (136)
1973

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXI КРАСАВІК—ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ № 2 (136)

*а. Т. Падзява*

# Добрая навіна

ДРУГАЯ КАТЭХЭЗА

(Працяг)

### 2. КАЛІ ХРЫСЬЦІЯНІН АДКАЗВАЕ НА БОЖЫ ЗАКЛІК?

Адказвае тады, калі прызнаецца да Бога словам і ўчынкам.

Хрысьціянін — гэта чалавек, які ўлучыўся ў гісторыю выратаваньня (збаўленьня) праз хрост. Напрыклад, кожны каталік ці праваслаўны, як малое дзіця быў ахрышчаны «У Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа». Царква, якая яго ахрысьціла, навучае, што гэтае дзіця бацькі ўлучылі праз гэта ў гісторыю выратаваньня. Бог, дзеля веры бацькоў, усынавіў іхняе дзіця, даючы яму магчымасьць жыць жыцьцём Самога Бога. Ад сваіх бацькоў дзіця вучыцца адрозьніваць дабро і зло. Бацькі абʼясняюць яму, што зло прышло на сьвет ад злога духа, які жадае людзям згубы, і што злы дух толькі думае аб тым, як чалавеку зашкодзіць. Ён ужо раз ашукаў першых людзей так моцна, што праз гэта сьмерць прышла на ўсіх людзей. Таму нельга рабіць зла, да якога нячысты дух чалавека спакушае. Трэба рабіць дабро, бо гэтага жадае Бог, які нас стварыў да вечнага жыцьця з Сабой. Калі мы будзем паслушныя Богу, дык Бог будзе нас любіць яшчэ больш і нашае шчасьце пасля сьмерці будзе большае і гэта нам дасьць найбольшае шчасьце яшчэ ў гэтым жыцьці.

Хрыстос, Сын Божы, паказаў людзям, як трэба жыць, каб быць шчасьлівым. Хрыстос устанавіў Таінствы, гэта знакі, што, калі мы хочам атрымаць Божую помач, трэба толькі зрабіць гэты знак і Бог акажа нам тую помач, якая нам патрэбна дзеля заслугаў Свайго Сына, Які нам выслужыў у Бога гэтую помач. Напрыклад, хрост лучыць нас з Хрыстом так, што усё добрае, што мы робім, мае у вачах Божых такую самую вартасьць, як усё тое, што рабіў Сам Божы Сын.

У Таінстве Эўхарыстыі Хрыстос жывіць нашую веру, надзею і любоў сваім Целам і Крывёю, каб і мы маглі так, як Ён сам, даказаць нават ахвярай са свайго цела і крыві, што мы сапраўды любім Бога і ўсіх людзей бяз вынятку, як Ён гэтага ад нас вымагае. Калі мы гэтак лучымся з Хрыстом, тады мы разам з Ім будуем Божае Валадарства, у якім усе людзі могуць бачыць, што Бог іх любіць.

Бог хоча абʼявіцца ўсім людзям, каб ратаваць усіх, але ня хоча паказвацца ў такіх выразных знаках ці цудах, што было б для людзей прымусам. Каб людзі маглі свабодна ісьці на Ягоны заклік, Бог кліча іх праз людзей. Нас, хрысьціян, Бог паклікаў якраз да таго, каб мы былі ягонымі сьведкамі, каб сьведчылі аб Ім перад людзьмі нашымі словамі ды учынкамі. Тады нашае жыцьцё будзе адказам на Божы заклік. Як бачым, ад хрысьціян Бог вымагае больш, чым ад усіх іншых людзей, бо мы самі больш ад Бога атрымалі. Сам Хрыстос нам гэта сказаў: «Каму больш дадзена, ад таго больш і вымагаецца».

Для тых, хто хацеў бы запісаць 2-е пытаньне, дыктуем:

«Калі хрысьціянін адказвае на Божы заклік?»

Хрысьціянін адказвае на Божы заклік, калі словам і ўчынкам прызнаецца да Бога.

*

Прыклад малітвы.

— Волю тваю выпаўняць, Божа мой, роскаш мая, і Закон твой — у сэрцы маім. —

Я абвяшчаў справядлівасьць тваю на вялізарным зборы і сапраўды вуснаў сваіх я не спыняў, — Ты гэта ведаеш, Госпадзі.

Праўды тваей я ня укрываў у сэрцы маім; пра вернасьць тваю я гаварыў і ўспамогу тваю; ласкі твае і справядлівасьць перад зборам вялізным я ня ўтоіваў.

*

Гэтая катэхэза павінна ўзбудзіць нашае зацікаўленьне гісторыяй выратаваньня. Яна павінна была насунуць кажнаму шмат пытаньняў. Просім прысылаць нам пытаньні, калі што будзе незразумелае.

### ТРЭЦЯЯ КАТЭХЭЗА

### ЖЫЦЬЦЁ З БОГАМ У ЦАРКВЕ

Апостал Павал піша ў Пасланьні да Эфэсаў:

«Вы ўжо ня чужыя і ня прыходныя, але суграмадзяне сьвятым і хатнія ў Бога, збудаваныя на фундаманце апосталаў і прарокаў, маючы Ісуса Хрыста за навугольны камень, на якім уся будыніна, разам змацаваная, расьце ў сьвяты храм у Госпадзе». (Эфэс. 2, 19—21).

*

Праз сьвяты хрост цябе улучылі ў гісторыю выратаваньня. Як малое дзіця прынесьлі цябе хросныя бацькі ў сьвятыню. Праз хрост ты быў прыняты ў ЦАРКВУ. Ты ўвайшоў у супольнасьць з Богам і ў сям'ю Божых дзяцей.

У Царкве ты атрымаў дар веры. Прасілі аб яго для цябе твае хросныя бацькі. Яны адгаварылі за цябе разам з сьвятаром «Веру ў Бога . . .» Ад Царквы ты маеш Божае Слова, запісанае ў Сьвятым Пісаньні. Царква вучыць цябе разумець і любіць Божае Слова і жыць згодна з тым, як яно вучыць. У сьвятой Літургіі Царква зьвертаецца да цябе з заклікам, з якім Бог шмат разоў зьвяртаўся да людзей у гісторыі выратаваньня.

У Царкве ты спаткаўся з Хрыстом. Гэта праз Яго Бог усынавіў цябе і ты стаўся братам для ўсіх людзей, якія вераць у Хрыста. Ты ўжо — не адзін. Бог — твой Айцец, Хрыстос — твой пасярэднік і Выратавальнік (Збавіцель). Царква ёсьць тваей Маткай, а ўсе веручыя ў Хрыста і ў Бога, ёсьць тваімі братамі і сёстрамі.

Ты жывеш у Царкве і калі захочаш, будзеш жыць у ёй да таго часу, калі Бог забярэ цябе на заўсёды да Сябе. У Царкве ты спатыкаеш Бога ў Сьвятых Таінствах, праз якія дзейнічае Хрыстос. І ты спатыкаеш Бога ў малітве, праз якую ты зьвяртаешся разам з Хрыстом да Бога; а ў Божым слове Хрыстос гаворыць да цябе.

У Царкве ты карыстаеш з выратаваньня, якое Хрыстос робіць табе даступным у сваей Літургіі дый асабліва ў Сьвятой Эўхарыстыі — Ахвяры. Гэтым спосабам ты ўмацоўваеш і разьвіваеш сваю любоў да Бога і сужыцьцё з Богам з тваімі братамі й сёстрамі ў Хрысьце дый з усімі людзьмі.

Хто любіць, той бачыць патрэбы і справы сваіх бліжніх. Ён умее думаць аб іх, ды ахвотна памагае, дзе толькі можа. Любоў лучыць людзей у працы для супольнага дабра, кліча да супрацоўніцтва ды робіць іх адказнымі адзін за другога. Гэтак і ты нясеш адказнасьць за Царкву, у якой ты жывеш. Гэтаксама ты нясеш адказнасьць і за Божае Валадарства, якое будуюць твае браты і сёстры, сярод якіх ты жывеш.

НАШ АДКАЗ БОГУ: — Хачу лепш пазнаваць жыцьцё Царквы, каб найбліжэй жыць з Богам, з Хрыстом і з братамі маей веры.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: «О, як прыемна сяліба твая, Госпадзе сілаў! Шчасьлівыя, што жывуць у тваім доме, Госпадзе! Сапраўды, адзін дзень на тваім падворку лепшы, чым тысяча іншых. Лепш стаяць ля парогу ў Божым доме, чым жыць у палатах грэшнікаў». (Пс. 83, 2-5-11).

ПЫТАНЬНІ, якія варта запісаць: 1) Хто сяньня перадае Божы заклік да выратаваньня? — АДКАЗ: «Божы заклік да выратаваньня перадае сьньня Царква».

2) Дзе сяньня чалавек спатыкаецца з Богам і сужыве з Ім?

АДКАЗ: «Сяньня чалавек спатыкаецца і сужыве з Богам у Хрыстовай Царкве».

На гэтым мы закончылі Уступ да катэхізмоўкі.

---

## З жыцьця закону Айцоў Марыянаў

*Юбілей 300-лецьця*

24 кастрычніка 1673 г. Біскуп Г. Сьвенціцкі, зьвізытаваўшы невялікі осяродак рэлігійнага жыцьця ў Пушчы Карабеўскай, (у Польшчы), якога кіраўнікам быў а. Станіслаў Папчынскі, пацьвердзіў рэгулы іх жыцьця і сам прадпісаў статуты.

Ад гэтага часу Таварыства Непавінна Пачатай Дзевы Марыі (гэтак перш называўся Марыянскі Закон), атрымаўшы царкоўную апрабату, пачало сваё існаваньне. Мэтай яго было — апрача імкненьня да асабістае сьвятасьці — пашыраць чэсьць Непавінна Пача-

тай Дзевы Марыі, малітва за душы ў чысцы і дапамога парахам у душпастырскай працы.

У сваіх кляштарах, якія знаходзіліся ў розных мясцох Рэчыпаспалітай, а такжа ў Партугаліі і ў Рыме, Марыяны вялі пабожнае законнае жыцьцё, вучылі просты народ дый асабліва маліліся за памёршых.

Калі Рэчыпаспалітая перестала існаваць (тры палітычныя падзелы: у 1772, 1793, 1795), наступіў вельмі цяжкі час для ўсіх законаў, а такжа і для Марыянаў. Былі зачыненыя дамы навіцыятаў, а гэтым недапушчаны даплыў маладога нарыбку. У гор. Марыямпалі ў Літве дажываў свой век нарэшце апошні марыянін, а. Вінцэнт Сэнкус. З той самай аднак парахвіі Бог узбудзіў новага кандыдата на сьвятога, Юрага Матулевіча, які, здабыўшы навуку, пачуў у душы поклік і глыбокае зразуменьне духовага жыцьця.

Матулевіч спачатку таемна, а пасьля яўна з сваім сябрам Францішкам Бучысам, зрабіў усе магчымыя захады, каб адрадзіць вымiраючы Закон Марыянаў: апрацаваў новыя Канстытуцыі, заснаваў некалькі законных дамоў і выстараўся новае пацьверджаньне ў Апостальскім Пасадзе Будучы Віленскім Біскупам (1918—1925) і адначасова Генэралам Айцоў Марыянаў, заснаваў такжа беларускі кляштар Марыянау ў гор. Друя над Дзьвіной у 1923 г.

Сёлета вельмі урачыста сьвяткуюць Марыяны свой Юбілей 300-лецьця ў Рыме, у Польшчы і ў Вялікабрытаніі і ўсюды там, дзе яны існуюць і дзе пануе свабода. У духу і ў праўдзе лучацца з імі іхныя сябры, якія яшчэ змаглі праіснаваць у савецкіх рэспубліках.

## *50 гадоў ад заснаваньня кляштару Айцоў Марыянаў у Друі*

БІСКУП МАТУЛЕВІЧ, які за жыцьця і па сьмерці меў апінію сьвятога, парупіўся заснаваць у Друі кляштар Айцоў Марыянаў, беларусаў.

У восені 1923 г. паслаў а. Андрэя Цікоту, да якога хутка далучыліся: а. Я. Гэрмановіч, а. В. Хамёнак, а. Ф. Абрантовіч (пралат) і а. Я. Дашута. Мэты і характар друйскага Дому выказаны ў акце ягонай фундацыі, выданым Апостальскім Пасадам дня 23 ліпня 1923 г.

«Марыяны (сказана ў дакуманьце) маюць мэту: адбудаваць кляштар, заснаваць для кандыдатаў у Закон школу і навіцыят для беларусаў, сярод якіх большасьць праваслаўных, а якія ня маюць сваіх законьнікаў, што маглі б працаваць дзеля іхняга збаўленьня».

Айцы Марыяны ў Друі вялі суровае манастырскае жыцьцё. Нямала часу пасьвячалі на малітву, на душпастырскую працу, на узгадаваньне моладзі ў гімназіі, якой арганізатарам і дырэктарам праз 10 гадоў быў а. Андрэй Цікота. У друйскім касьцёле і ў вёсцы Малькоўшчына, дзе быў дапаможны касьцёл



друйскае парахвіі, былі ўведзены беларускія казаньні. Наогул друйскія айцы гутарылі з народам у ягонай уласнай мове і ў гэтай мове навучалі дзяцей катахізмаў і першых прынцыпаў веры.

Праз цэлы час свайго існаваньня друйскі кляштар быў аб'ектам несправядлівасьці і прасьледу. Закідвалі, напр., што ад бальшавікоў атрымліваюць грошы, што праводзяць палітыку сэпарацыі і інш. У нападках адзначаліся нацыяналісты-палякі, асаднікі, меншыя урадоўцы. Асабліва наскандаліў ведамы авантурнік сьвятар, Язэп Бародзіч, бунтуючы друйскую парахвію і сеючы фантастычныя плёткі. Усё гэта не магло аднак ні зламаць духу прызваньня, ні перашкодзіць ахвярнай працы друйскіх законьнікаў. Тады польская цывільная адміністрацыя — на загад Віленскага ваяводы Бацянскага — вывезла прымусова з друйскага кляштару перш сьвятароў-беларусаў, а пасьля студэнтаў-клерыкаў. Сталася гэта ў сумным 1938 г.

Уся польская прэса загаманіла аб Марыянах-беларусах: з малымі вынняткамі апінія была варожая! На месца Марыянаў беларускіх прыбылі Марыяны польскія, аднак хутка надыйшла вайна і разагнала ўсіх . . .

Сяньня ў быўшым друйскім кляштары ў БССР месьціцца школа: а прыгожы касьцёл, выбудаваны Казімерам Сапегам, цяпер абдзёрты з крыжа, запушчаны, вятрэе і абертаецца ў руіны.

Чаму горад Друя палічаны цяпер «пасёлкам»? Ня стала тут гімназіі і запанавала за-

пусьценьне... Мусіць гэтак новыя ўлады стараюцца затушаваць «Друю Марыянаў і Друю Цікоты»? Аднак старая Друя мае ўжо нямала заступнікаў у небе — аж, Бог дасьць, ператрывае цяперашнюю злыбяду. За яе моляцца замучаныя Цікота і Абрантовіч, загнаныя ў Сібірскія турмы й лягеры. Моляцца такжа Юры Кашыра і Антон Лешчэвіч, спаленыя разам з народам у Росіцы нацыстамі-немцамі; за Друю моляцца легендарныя цяпер Віталіс, Дашута і Смулька, выгнаныя калісьці ў Польшчу.

Дый мы цяпер у Лёндане жывём з такой думкай: «Няхай нам адсохне правіца, чымся забудзем цябе» — гістарычная дарагая ДРУЯ!

*Юбілей айца Язэпа Гэрмановіча*

29 чэрвеня 1913 году ў Вільні дыякан Язэп Гэрмановіч быў пасьвечаны, маючы 23 гады, на сьвятара, — на службу Богу і Бацькаўшчыне. З гэтага шляху ня зыйшоў ніколі, паміма найцяжэйшых абставінаў, у якія кідала яго бурнае жыцьцё. У 1924 г. уступае у Закон Марыянаў і далучаецца да арганізацыі законнага жыцьця ў Друі. Працуе пробашчам парахвіі, пасьля настаўнікам лацінскай мовы і рэлігіі ў гімназіі, кіруе групай моладзі ў кляштары і ў школе.

У 1932 клічуць яго на Далёкі Усход у Харбін на падмогу Архім. Абрантовічу, пасьля ізноў у беларускі Дом у Вільні ў 1936 на прэфэкта Дому Студыяў. Тут спатыкае яго тая самая доля, што і іншых сяброў Друйскага Дому: загад ураду пакінуць Вільню, а гэтым самым і родную Беларусь. Ізноў — вялікае падарожжа і цяжкая праца ў Харбіне (1939—1948); пасьля савецкая турма і лягеры (1948—1955). Там сьмерць Сталіна захавала а. Гэрмановіча ад сьмерці. Звольнены з лягеру жадае ехаць у Беларусь, але савецкая ўлада не дазваляе.

Трапляе ў Польшчу, адтуль ледзь удалося — у Рым, з Рыму ў Лёндан і зараз ў Злуч. Штаты Амэрыкі, стуль вярнуўся у Лёндан, дзе ўжо астаецца аж дасюль!...

Паміма ўсіх перашкодаў а. Я. Гэрмановіч не пакідае пяра. Ягоныя некаторыя вершы ў Заходняй Беларусі людзі знялі на памяць.

Калі Папа Павал VI даведаўся аб Юбілею а. Я. Гэрмановіча, прыслаў яму праз свайго Статс-сакратара адмысловы ліст (12. III. 1973 г. № 1686 (73). «Калі Найвышэйшы Архісьвятар даведаўся, што Ты і іншыя сьвятары, аб якіх Ты ўспамінаеш у сваей кніжцы, перацярпелі гэтулькі дзеля любові Бога і Царквы, захацеў параслаць Табе словы поўныя любові, якія няхай для Цябе будуць пацехай і далейшай падтрымкай спаўняць радасна і прыкладна сьвятарскае служэньне.

У дзень, калі з радасьцю будзеш успамінаць пражытыя 60 гадоў ад сьвятарскага рукапалажэньня, Вікары Хрыста разам з Табой аддасьць Богу падзяку і будзе маліць для Цябе аб багацьце нябесных ласкаў, праз якія напоўнішся супакоем духа і радасьцю, — гэтак бо даецца нагарода ўжо тут на зямлі верным Божым слугам».



Павал VI прыняў кніжку а. Я. Гэрмановіча ў італьянскім перакладзе: «Кітай—Сібір—Масква», што можна бачыць на здымку Папы з Біскупам Сіповічам, якую ён даручыў у прыватнай аўдыенцыі 22. II. 1973.

Сапраўды мы ўсе цешымся, што Бог у сваім правідзе захаваў нам а. Язэпа Гэрмановіча, слабасільнага з натуры, праводзячы яго праз гэтулькі цярністых шляхоў! Дык жадаем яму памысных «СТО—ГОД!»

*Ч. С.*

# З царкоўнага жыцьця

РЫМ-ВАТЫКАН: Сусьветны Сынод Біскупаў — у кастрычніку 1974 г., адбудзецца на тэму: «Эвангелізацыя сучаснага сьвету». Заўсёды напамінае нам Хрыстос словам, якое сказаў да апосталаў: «Ідзіце — навучыце ўсе народы і хрысьціце іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа». Цяпер асабліва, калі прапаганда супраць веры распалілася на сьвеце, трэба ажывіць апостальства Сьвятога Евангельля.

*

АЎСТРАЛІЯ—МЭЛЬБУРН: Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. Адбыўся ён у Мэльбурне 18—25 лютага г. г. Галоўная думка яго была: «Эхарыстыя ёсьць магутным сродкам лучнасьці хрысьціян і ўсяго чалавецтва». Прасілі прыбыць на Кангрэс Папу Паўла VI, але ён ня мог прыбыць і яго замясьціў дэлегат арцыбіскуп з Бэльгіі. Ён прывёў у прамове словы сьв. Аўгустына: «Адзінства ў любові», бо сапраўды Эўхарыстыя — гэта крыніца лучнасьці. У сьвятым прычасьці людзі ўлучаюцца у адно Містычнае Хрыстовае Цела, якое ажыўляе Сьвяты Дух — Дух Любові. Дый людзі лучацца з сабою і з Хрыстом.

Выявіўся ЭКУМЭНІЧНЫ характар гэтага Кангрэсу, бо рыхтавалі яго каталікі, праваслаўныя, англікане, мэтадысты і прэзбітэрыянцы. У часе Кангрэсу пільнавалі парадак каля 5.000 асобаў. Асаблівая ўвага зьвернена на сьвяты ХРОСТ. Апрача супольных малітваў і сьпеву, адбылося супольнае аднаўленьне урачыстага абяцаньня-прырачэньня, дадзенага падчас хросту. Прамаўлялі прадстаўнікі розных веравызнаньняў: кардынал Віллебранс, пастар Люкас Фішэр (ад Сусьветнай Рады Цэркваў). Закончана набажэнства братэрскім пасілкам (агапэ) і пацалункам супакою.

*

ІНСТРУКЦЫІ АБ СЬВЯТОЙ КАМУНІІ (ПРЫЧАСЬЦІ). 29 студзеня г. г. Апостальскі Пасад выдаў новы Дакрэт: «Дзе бракуе сьвятароў і дыяканаў, біскупы могуць пазваляць іншым паважным асобам даваць сьвятую Камунію, як клерыкі, законьнікі, катэхэты і інш. пабожныя асобы, маючыя добрую апінію ў народзе. Таксама даецца дазвол жанчынам, калі трэба прычасьціць хворага ці дзяцей. Манашак можа прычасьціць ігуменьня, калі няма сьвятара ці дыякана.

У вельмі паважных здарэньнях могуць людзі і паўторна прыступіць до сьвятой камуніі — з пабожнасьці, напрыклад, падчас Зьездаў, Кангрэсаў, пахованаў ці ў іншых здарэньнях.

Эўхарыстыстычны пост скарочаны да 15 мінутак, калі заходзіць важная патрэба, а пры тым вада і лякарства зусім не ламае посту.

*

КОНКЛЯВЭ — ВЫБАРЫ ПАПЫ: Павал VI аб'явіў, што дасюлешні парадак выбару Папы ёсьць застарэлым, дык належыць пашырыць лік выбаршчыкаў: апрача кардыналаў (што ня маюць 80 гадоў), належыць улучыць усходніх патрыярхаў і калегію членаў Генэральнай Рады Сыноду Біскупаў.

*

«ЦАРКВА МАЎЧАНЬНЯ»: З нагоды Вялікадня Папа прамаўляў да народу сабранага на плошчы сьв. Пятра: заклікаў народ да малітвы «за нашых братоў у веры, якія ня могуць сьвяткаваць Пасху ў поўнай радасьці і лучнасьці...». Казаў: «Існуе Царква зьняволеная... пад страхам — спараліжаваная спэцыяльна да гэтага абдуманым законам. Гэта ёсьць «Царква Маўчаньня», пазбаўленая натуральнае свабоды вызнаваць сваю рэлігію... Мы молімся за тыя супольнасьці і за тых (кіраўнікоў), якія адказваюць за той стан Царквы праз свае блізарукае ўпярэджаньне... да прагрэсу і супакою Хрыста-Збавіцеля».

*

БІСКУПЫ Ў ЧЭХАСЛАВАЦЫІ: Нарэшце пасьля 10 гадоў Ч.-Сл. дачакала 4-х біскупаў! Аднак з усіх 13 дыяцэзіяў 7 ёсьць пазбаўленыя сваіх пастыраў. Перамовы ў гэтай справе вядзе дэлегат Папы біскуп Казаролі, і ён таксама пасьвяціў гэтых 4-х кандыдатаў на біскупаў.

*

ЧЫЛІ: Урад аб'явіў, што пераймае на сябе ўсе школы ў краіне і ўводзіць сваю праграму. У сувязі з гэтым кардынал Сантыяго меў спатканьне з прэзыдэнтам Алендэ. Кард. гаварыў, што гэтым нарушаецца права вернікаў, што ўрад ня прызнае свабоды выхаваньня моладзі паводля іх сумленьня. Але ўрад затойвае свае пляны перад грамадзтвам, каб накінуць вернікам праграму недаверства.

*

НОВАЕ ЦАРКОЎНАЕ ПРАВА: Папа Ян XXIII заснаваў у 1963 г. Камісію для рэвізіі гэтага Права. Камісія закончыла «Фундамантальнае Права» і разаслала яго біскупам для пераглядy. 1300 біскупаў прыслалі свае заўвагі ў Рым і яны ўжо апублікаваныя: 593 далі поўную згоду, 462 далі згоду з папраўкамі, а іншыя не згадзіліся. Праект Права ўвойдзе ў папраўкі і перагляд — паводля заўвагі біскупаў.

*

СПРАВА АБОРТУ Ў ІТАЛІІ: У 1971 г. парлямант увёў невялікай большасьцяй права, якое пазваляе на аборт. Каталікі былі гэтым нездаволены і дамагаліся рэфэрэндум — галасаваньня ўсяго народу. Вымагалася даць 3 мільёны галасоў-падпісаў. Калі гэты лік быў сабраны, дык рэфэрэндум не маглі правесьці дзеля агульных выбараў у Італіі. Тады перанесьлі рэфэрэндум на 1974 год. Пачакаем — пабачым!

*

ВАТЫКАН: На ВЯЛІКДЗЕНЬ Папа прамаўляў да ўсяго сьвету: падкрэсьліў радасьць, што «ХРЫСТОС САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!» Гэтым гарантуе і нашае ўкрашэньне пасьля сьмерці да жыцьця і да радасьці.

Папа паўтарае словы Хрыста: «СУПАКОЙ ВАМ!» Найперш краінам і народам, дзе яшчэ трывае вайна, як ў ІНДАКІТАІ, на БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ і ў ІРЛЯНДЫІ. Папа выказвае свой спагад тым народам, якія яшчэ церпяць з нагоды вайны. Таксама Папа вітае ўсіх церпячых на сьвеце: хворых, бедных, нешчасьлівых, галодных.

Зьвяртаецца да МОЛАДЗІ: «Да вас маладое пакаленьне, якое ў няпэўнасьці і трывозе, але з энтузіязмам шукае новай дарогі да жыцьця і праўды, — да вас прыходзіць Хрыстос са сваім радасным вітаньнем: «Супакой Вам!» Хрыстос дае супакой і мудрасьць . . . супакой поўны радасьці з жыцьця і любові! Хрыстос гатоў аб'явіць вам сапраўдны сэнс рэчаў і жыцьця і чакае Вас у сваей Боскай школе . . . ».

*

ІНДАКІТАЙ. РАТУНАК ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ: У ВЕТНАМЕ пачалі сваю працу розныя дабрадзейныя арганізацыі, не зважаючы ня няпоўны канец вайны. Усе працуюць пад кіравецтвам арганізацыі, што наз. «АДНО СЭРЦА». З імі сьціслую сувязь трымае сам Папа Павал VI. Пастаўлены два пункты гэтае дзейнасьці: 1) Увесь абшар ІНДАКІТАЮ уважаецца за цэласьць, каб памагчы стурбаваным вайной людзям, не зважаючы на рознасьці іхных пераканаьняў. 2) Памагаць трэба ўсім церпячым, падзеленых рэлігіяй ці палітыкай. Пяршынство даецца ахвярам вайны. Супрацаваць належыць з іншымі арганізацыямі, асабліва з Сусьветнай Радай Цэркваў.

*

БОЛЬШ КАРДЫНАЛАЎ: 5-га сакавіка г. г. Папа назначыў новых 30 кардыналаў і цяпер усіх іх 144, — такога ліку ніколі ня было! У новым сьпіску знайшліся кардыналы з розных краёў і нацыяў і расаў: гэтым паказваецца унівэрсальнасьць Царквы. Некаторыя вельмі маладыя, ад 40 да 50 гадоў.

*

ПАТРЫСТЫЧНЫ ІНСТЫТУТ: Грэцкая Царква заснавала Патрыстычны Інстытут: ягоная мэта студыяваць манускрыпты пісьмаў Айцоў Усходняе Царквы, перад іншымі сьв. Яна Хрызастома. Старыя дакуманты сабраны ў манастырох гары Афон. Інстытут мае ўжо 700 мікрафільмаў гэтых манусрыптаў, а рыхтуецца яшчэ 4.000.

*

ХРЫСЬЦІЯНЕ І ЖЫДЫ: Нядаўна францускі эпіскапат выдаў пастырскае пасланьне, у якім выясніў парадак адносінаў між хрысьціянамі і жыдамі паводля дакрэту Ватыканскага II-га Сабору. Мяноўна: нельга цяперашніх жыдоў рабіць адказнымі за укрыжаваньне Ісуса Хрыста! Прытым хрысьціяне павінны цаніць Стары Запавет дзеля ягоных вялікіх вартасьцяў рэлігійных і цеснай сувязі з Новым Запаветам. Дый жыды маюць прыроднае права да палітычнай свабоды і трэба гадзіцца з другімі жыхарамі ў сужыцьці, ня робячы нікому крыўды.

*

АБ ЭКУМЭНІЗЬМЕ: Маскоўскі Патрыярх Пімен у размове з карэспандэнтамі сэрбскага Патрыярхату з прызнаньнем высказаўся аб экумэнічнай працы Каталіцкае Царквы, але перасьцярог перад лішнім пэсымізмам ці аптымізмам у гэтай працы. — Нядаўна у Маскве гасьціў Генэральны Сакратар Сусьветнай Рады Цэркваў, да якой належыць і Праваслаўная Царква. Мэтай пастара Філіпа Роттэра было абмяркаваньне справы, як тлумачыцца навука Царквы адносна Тайны веры аб сьвятым Хросьце, аб Эўхарыстыі і аб Сьвятарстве. Патрыярх Пімен абяцаў супрацу з імі ў гэтых справах.

## *З беларускага праваслаўнага жыцьця*

З вялікім спазьненьнем — бо-ж нашыя часапісы выходзяць рэдка і незаўсёды рэгулярна — падаём толькі некаторыя галоўныя здарэньні з рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў на чужыне.

Трэба прызнаць, што апошнім часам яно ажывілася, не зважаючы на вялікія страты, якія прычыніла сьмерць двух праваслаўных ерархаў. Ўладыкі Васіля ў Злучаных Штатах Амэрыкі і Ўладыкі Сяргея ў Аўстраліі.

### ДРУГІ САБОР БАПЦ

У часе ад 27 да 29 траўня 1972 г. у Ню Джэрсі ў Гайлянд Парку, ЗША, адбыўся другі Сабор

Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, у якім прынялі учасьце яго галоўныя арганізатары Ўладыкі Андрэй (Крыт) і Мікалай (Мацукевіч), а з духавенства а. прот. А. Смаршчок з Бэльгіі, а. Я. Пекарскі з В. Брытаніі, айцы Васіль Кендыш і Карп Стар са ЗШ Амэрыкі. Такжа сьвецкія людзі бралі удзел у Саборы, як прадстаўнікі ад разных парахвіяў і арганізацыяў.

Сабор прыняў нававыпрацаваны Статут БАПЦ, выбраў Мітрапаліта ў асобе Архібіскупа Андрэя, выбраў Раду БАПЦ, якая ў сваю чаргу выбрала Кансысторыю. З паміж рэзалюцыяў прынятых на Саборы вартыя асаблівай увагі дзьве апошнія:

«Сабор пастанаўляе разбудоўваць далей БАПЦ, арганізаваць новыя парахвіі й старацца аб'яднаць беларускія парахвіі, што знаходзяцца ў другіх юрысдыкцыях, дбаць пра павялічэньне стану духавенства, удасканаліць навучаньне дзяцей і моладзі ў парахвіяльных школах.

Сабор сьцьвярджае патрэбу далейшай беларусізацыі Багаслужбаў і іхнага музычнага афармленьня. Ужываньне ў жыцьці Царквы моваў краёў прабываньня вернікаў БАПЦ залежыць ад мясцовых абставінаў».

### УВАХОД У НОВАЗБУДАВАНУЮ ЦАРКВУ СЬВ. КІРЫЛА ТУРАЎСКАГА Ў РЫЧМОНД ГІЛ, НЮ ЁРК

29 кастрычніка 1972 г. адбылося ўрачыстае пасьвячаньне сьвятыні, саборная Літургія, супольны абед з прывітаньнямі і прамовамі. Ахвяры на гэтую царкву зьбіраліся ад даўжэйшага часу, асабліва, калі група праваслаўных беларусаў адыйшла ад парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Ню Ёрку. Гэта Царква называе сябе: «Амэрыканская Беларуская Незалежная Праваслаўная Царква». Парахам новапасьвячанай царквы ёсьць а. прот. Сьвятаслаў Коўш, сын ведамага беларускага праваслаўнага сьвятара, дзеючага ў Вільні за часоў Польшчы.

### ПАСЬВЯЧАНЬНЕ І ЎВАХОД У НОВА-ПРЫДБАНУЮ ЦАРКВУ Ў МАНЧЭСТЭР

Дня 12 лістапада 1972 г. адбылося урачыстае пасьвячаньне царквы Жыровіцкай Божае Маці ў Манчэстэр у В. Брытаніі, якое выконаў а. прот. Аўгень Смаршчок у саслужэньні беларускіх і украінскіх сьвятароў у прысутнасьці шматлікіх вернікаў. Будынак для царквы быў куплены у пратэстантаў і адноўлены сваімі сіламі, дзякуючы ахвярнасьці вернікаў і а. прот. Я. Абабуркі, які ёсьць яе кіраўніком і парахам. Царква ў Манчэстэр належыць да юрысдыкцыі БАПЦ.

### БАГАСЛУЖБЫ ДЛЯ ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ У ЛЁНДАНЕ

Ад паловы 1972 г. у англіканскай царкве сьв. Сіласа і Ўсіх Сьвятых раз на месяц адбываюцца Божыя Службы для праваслаўных беларусаў Лёндану і ваколіцаў. Служыць а. Янка Пекарскі, сьвятар БАПЦ. Апрача таго так у Лёндане як і навонкі яго ёсьць іншыя беларускія праваслаўныя сьвятары, якія аднак звязаныя з рознымі іншымі небеларускімі юрысдыкцыямі: з польскай (г. наз. Польскі Касьцёл Праваслаўны), або з грэцкай.

*

З гэтага вельмі кароткага агляду відаць, што праваслаўныя беларусы разумеюць вагу рэлігійнага жыцьця і ў патрэбе прысвячаюць яму ці мала часу і цяжка запрацованы грош.

---

# Бляскі і церні людзкой працы

1-га мая сьвяткуецца ДЗЕНЬ ПРАЦЫ: ён мае характар сьвецкі, але Папа Пій XII прыдаў яму рэлігійны зьмест, прысьвячаючы яго сьв. Язэпу-Работніку, Патрону рабочых. Павал VI, прамаўляючы з нагоды гэтага Дня, закрануў справу працы. Здаецца, што праца — такая простая справа, дык няма чаго пра яе гаварыць, — аднак у ёй крыецца багаты матар'ял для разважаньня.

1) ПРАЦА ДАСКАНАЛІЦЬ ЧАЛАВЕКА. Без працы чалавек ня можа развівацца духова і фізычна. Кожны лянівы чалавек хірэе дый занепадае. Таксама й цэлыя народы. Таленты і здольнасьці маглі бы зрабіць чалавека выдатным. Умелая і вытрывалая праца дасканаліць чалавека і народы — даводзіць да сьвятасьці; а нядбальства родзіць благія нахілы, даводзіць да злачынства і згубы.

2) «ХТО НЕ ПРАЦУЕ, ХАЙ І НЯ ЕСЬЦЬ!» (Тэс. II, 3, 10).

Праца дае права да хлеба: такі Божы Закон. Працай здабываецца уласнасьць — свой хлеб, — асабістая незалежнасьць і сямейная эгзыстэнцыя, якая ёсьць падставай духовай свабоды і годнасьці. Таму Царква бароніць натуральнае права да ўласнасьці супраць татальных сыстэмаў, якія імкнуцца адабраць уласнасьць. Дзякуючы працы чалавек ня будзе цяжарам для другіх, бо запрацуе на сябе і на сям'ю, што дае яму радасьць і самога узбагачвае духова.

УВАГА: Камунізм толькі ў тэорыі крычыць аб супольнасьці, але практычна нідзе не стварыў поўнае к а м у н ы : адбірае ўласнасьць прыватную, аддаючы ўсё ў каманду партыі і дзяржавы . . .

3) У ПРАЦЫ ЧАЛАВЕК ЁСЬЦЬ БОЖЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ Бог стварыў сьвет, але недакончыў: пакінуў гэта самому чалавеку, даў яму розум, здольнасьці, сілу і загадаў дасканаліць сьвет, а найперш сябе самога — душу і цела. Пры Божай помачы трэба авалодваць сіламі прыроды: з сыравіны з грунту, з дрэва, з каменя, мармуру, вугля, нафты і інш. тварыць прэцызыйныя прылады для працы або да геніяльных твораў мастацтва. Дый з сябе самога тварыць образ Божы, працуючы духова. Дзякуючы ўмелай і вытрывалай працы пустыні мяняюцца ў гароды, сады і ўраджайныя палеткі. Праца стварыла цудоўную культуру і цывілізацыю. Дый цяперашнія вынаходы тэхнікі твораць з гэтае зямлі сапраўдны зямны рай, абы толькі не марнаваліся скарбы і вартасьці на збраеньні і ня прывялі да згубы людзей дый самой нашай цудоўнай плянэты!

4) ЦЯЖАР ПРАЦЫ. Аднак жа праца родзіць нямала прыкрасьці для людзей, бо сапраўды, як загадаў Бог, трэба працаваць «у поце чала». Тут уласна перад намі цяжар працы, труд, стомленасьць, змора, натуга, зьнемажэньне і поўная інваліднасьць . . . Чалавек чуецца прыгнечаным фізычна і духова. Ведаем з Божага аб'яўленьня, што гэта вынік граху і кара за грэх дый адплата і пакута. Бог у сваей прамудрасьці спалучыў працу і карысьць з яе з пакутай і з адплатай за грахі, каб мы маглі узнагародзіць Самому Богу і людзям за прычыненае зло з нашае правіны. Такім чынам Бог замяніў труд працы ў крыніцу радасьці для чалавека, асабліва, калі Сам Хрыстос — праз труды працы і праз царпеньні дый сьмерць — прычыніў збаўленьне грэшнага сьвету.

5) ГРАМАДЗКІ ХАРАКТАР ПРАЦЫ. Праца зьяўляецца ня толькі асабістай справай чалавека, але яна яго ўлучае ў грамадзтва. Самы факт, што кожны мусіць працаваць, каб ня быць цяжарам для другіх, дык гэтым праца становіцца справай грамадзкай. Так творыцца абмен працы і карысьці з яе: мы для другіх, а яны для нас. Значыць, праца творыць супольнасьць, залежнасьць, забавязаньні, умовы і так уладжваецца грамадзкая справядлівасьць. Як кажуць: «Ніхто ня будзе адзінокім востравам». У кожным кавалку хлеба людзі злучаны сваей працай, думкай, сэрцам і рукамі — усялякія прафэсіі — ад самай простай да вялікіх вучоных. Калі людзі не надужываюць карысьці з працы праз хцівасьць і амбіцыю, дык чалавек не станецца эксплёатаваным работнікам-машынай. Такі вызыск чужой працы становіцца праклятьцем для скрыўджаных, а з гэтага паўстаюць закалоты, варожасьць і рэвалюцыі. Людзі склонныя да зла, асабліва знайшоўшыся пры ўладзе.

Аднак парадак ня творыцца сам праз сябе, ані праз націск і суровыя кары. Перадусім трэба абапёрці сыстэму жыцьця на Божым Законе. Таму заўсёды мае значэньне стары прынцып: «Працуй і маліся!»

Кожны павінен старацца стаць чэсным чалавекам перад Богам і людзмі: аддаваць кожнаму, што яму належыць. Арганізаваць працу сумленна і бяз вызыску другіх, бараніцца ад крыўды паводле закону справядлівасьці і бараніць другіх, дбаць аб дабро асабістае і грамадзкае, аб свой край і Бацькаўшчыну. — Вось на чым палягае хрысьціянскае паняцьце аб абавязку працы!

# Мэтоды працы ў атэізьме

Часапіс «Наука і рэлігія» ў Маскве ў №№ 9, 10 і 11 за 1972 г. падводзіць перагляд прапаганды атэізму ў СССР: **роблены былі памылкі, дык трэба вярнуцца да мэтадаў Леніна і Сталіна ў 20-х гадах.**

Надта было затрачана шмат часу і сродкаў на прапаганду індывідуальную, а выннікі аказаліся недастатковыя. Перш хвалілі прапагандыстаў за іх стараньне і ахвярнасьць: такі агітатар меў назначанага сабе веручага. З ім разам хадзіў на работу, падчас работы пераконваў — агітаваў супраць веры, а з работы адводзіў да дому — таксама, агітуючы. Вечарам забегаў да яго на прапаганду і такжа у выходны дзень, каб «па дружбе» пры гарбаце ці піве даказваць, што вера ёсьць шкодная і нягодная для разумнага чалавека. І што вера — гэта спадак па капіталізьме. А ў сябе агітатар апрацоўваў плян місіі для таго веручага на заўтрашні дзень.

Так агітатар вёў «работу» місіі праз некалька гадоў — доўга ці карацей, пакуль веручы не даваў падпіскі, што пакідае веру і прыймае атэізм. Праўда, такі змардаваны вернік, каб адчапіцца, даваў нарэшце падпіску і агітатар з трыумфам мельдаваў у пар-

тыі, што навярнуў упартага да недаверства!

Аднакжа партыя сама зьняверылася ў добрым выніку такой прапаганды. Вось часапіс «Людзіна і сьвет» № 8 за 1972 г. дамагаецца адмовіцца ад такой «місіі» таму, што — «Як бы ня быў здольны агітатар, дык ягоны ўплыў недастатковы»; «Немагчыма выдзеліць столькі выхаваўцаў, каб яны цалкам ахапілі кожнага веручага . . .» Бо — кажуць, што:

а) Нагаворы супраць веры недастатковыя. Выясьнілася, што даўшы адрачэньне, веручы астаўся веручым,

в) Лік веручых у СССР значна перавышае лік партыйных, агітатараў і людзей, вербаваных да атэізму, як настаўнікі ў школах, лекары, студэнты, камсамольцы, піянэры і. др.

Значыць, пераканаліся, што паасобку «наварачваць» некарысна, а лепш паручаць калектывам, каб «абраблялі» веручых людзей. І так, пад націскам калектыву ці брыгады, клюбу і інш., веручы ўсёроўна ня вытрывае і падпіску дасьць. Газэта «Зара Усходу» ад 10, 2, 1961 г. паведамляла, што адну стойкую адвэ́нтыстку наварачвалі: муж і адзін ваенны атэіст, настаўніца малодшых рабочых, уся камсамольская брыгада і спэцыяльны прапагандыст, прыстаўлены да яе, але і гэта заняло вельмі шмат часу!

Адным словам цяпер партыя дамагаецца, што адказнымі будуць за кожнага веручага: загадчык домам, дзе веручы жыве, кіраўнік школы, дзе вучыцца, бальніцы ці амбуляторыі, дзе лечыцца, клюбу ці бібліятэкі, куды веручы прыходзіць, і інш. установы, у якіх ён прабывае. Дык ня цяжка зразумець, што такі абсочаны, аббраханы, зацюканы будзе псыхічна заламаны і здасца — падпіша адрачэньне.

*

Афіцыяльна за веру не караюць, аднак мясцовыя ўлады маюць тысячы спосабаў, каб прымусіць веручага да здрады рэлігіі. Калі ўсё залежыць ад дзяржавы: праца, школа, урады, войска, гандаль — абсолютна ўсё жыцьцё — заняткі і адпачынак у самых дробных дэталях, дык мясцовыя органы не дадуць няшчаснаму веручаму магчымасьці пражыць без адрачэньня веры. Ратуюцца людзі толькі абсалютным маўчаньнем і . . . глыбокай верай дый Божай ласкай. І ўсё ж пры такой агітацыі, нягоднасьці, шальмоўстве і арганізацыі самі атэісты прызнаюцца, што вера ў народзе трывае, а нават павялічваецца.

(Рэлігія і атэізм у СССР. Мюнхэн. Студзень 1973, № 1 [63]).

# Рэлігійныя пагляды Мікалая Капэрніка

Сёлета з нагоды пяцьсотых угодкаў нараджэньня выдатнага астранома і матэматыка Мікалая Капэрніка зьявілася і яшчэ зьяўляецца шмат артыкулаў, у якіх насьвятляецца асоба гэтага вучонага сусьветнае славы і адкрыцьцё аб будове сонечнае сыстэ́мы, што сталася зваротным пунктам у астраноміі і ў іншых галінах навукі. У зьвязку з гэтым цікава ведаць, які быў рэлігійны сьветапагляд гэтага вучонага?

У атэістычных публікацыях, хоць Капэрніка і не называюць атэістам, але намагаюцца даказаць, што ягоная тэорыя быццам ёсьць варожаю царкоўнай навуцы і што гэліёцэнтрычная сыстэма зрабіла ўдар па самых асновах рэлігійнага сьветапагляду. На тыя закіды можна коратка адказаць, што яны больш чым наіўныя, бо ў сапраўднасьці гэліёцэнтрычная сыстэ́ма Капэрніка зрабіла ўдар па навуковай тэорыі Пталамэя, якое трымаліся ўсе вучоныя ўва ўсім сьвеце.

Капэрнік паходзіў з пабожнае каталіцкае сям'і. Ягоны бацька належаў да трэцяга ордэну сьв. Дамініка, а маці была глыбока-пабожнаю; яе брат Лукаш Ватцэнродэ быў Вармійскім біскупам, а сястра Хрыстына ўступіла да законных сясьцёр бэнэдыктынак.

Ад бацькоў Мікалай Капэрнік атрымаў пабожнае ўзгадаваньне, а далей ягоную рэлігійнасьць дапоўніў ягоны дзядзька, Вармійскі біскуп, да якога ён прыехаў, па сканчэньні Кракаўскага ўнівэрсытэту. З рук дзядзькі ён атрымаў ніжэйшыя сьвятарскія сьвячаньні і годнасьць каноніка Вармійскае катэдры.

Па сканчэньні сваіх студыяў Капэрнік напісаў нямала твораў. І ўсе яны напісаны палаціне. Цяпер у Нямеччыне намечана выдаць усе ягоныя творы ў дзесяці томах.

І так у найбольшым і найважнейшым сваім творы: «Аб абаротах нябесных целаў» ён выказвае падзіў уладжаньня сусьвету, які ёсьць «люстрам Бога» праз сваю суладнасьць, праз сваё прыгаство і чыстасьць; праз сваю дасканаласьць і праз адпаведнасьць прыродных правоў. Капэрнік Бога называе дасканалым Майстрам і з ягоных рук сусьвет выйшаў, як твор мастацтва, вельмі ўпрыгожаны. Бог зьяўляецца найвышэйшым дабром. Праз ха-

раство і праз кантэмпляцыю сусьвету чалавек даходзіць да Бога. Капэрнік казаў: «Астраномія гэта навука больш Божая чым людзькая, каб пазнаць Стварыцеля сусьвету, як крыніцу ўсяго дабра і шчасьця».

У рэлігійным сьветапаглядзе Капэрніка Бог зьяўляецца найвышэйшым Дабром, бесканечнаю Мудрасьцю. Адносна чалавека Божая дабрата праяўляецца ў тым, што для чалавека Бог стварыў сусьвет і кіруе ім паводля Свайго правіду.

Божы правід устанавіў закон гравітацыі і ўвёў гармонію ўва ўсіх створаных рэчах. Аб гэтым ён кажа так: «Думаю, што гэта ня што іншае, як пэўнае прыроднае прыцяганьне часьцяў, якое Стварыцель сусьвету ўлажыў у іх сваім правідам на тое, каб сплываліся ў еднасьць і суцэльнасьць. І трэба верыць, што прыцяганьне ёсьць так-жа на сонцы, на месяцы і на іншых сьвяцілах. Капэрнік лічыў, што цэнтрам сусьвету ёсьць сонца, адгэтуль і ягоная гіпотэза называецца гэліёцэнтрычнаю.

Пра аблічча цудоўнага ўкладу сусьвету Капэрнік гаварыў у захапленьні: «Якое падзівугоднае і найбольш дасканалае гэтае Божае ўладжаньне». Але каб дасьледаваць найбольш глыбокія тайны сусьвету, Капэрнік лічыў магчымым толькі з помаччу адпаведнае Божае ласкі: «Спрабую дасьледаваць з Божаю ласкаю, без якое немагчыма найбольш дакладна дасьледваць гэтыя рэчы». І ён дасьледаваў так глыбока, што сваею гэліёцэнтрычнаю сыстэмаю даў пачатак сапраўднае рэвалюцыі ў гісторыі навукі аб сусьвеце.

Капэрнік усімі сіламі стараўся шукаць праўду ўва ўсіх рэчах, паколькі гэта дазваляе Бог людзкому розуму. І гэта ён рабіў ня толькі таму, каб шукаць праўду, але таксама і таму, каб падзіўляць Стварыцеля і самому йсьці да дасканаласьці і да шчасьця. Аб гэтым ён пісаў: «Паколькі ёсьць заданьнем усіх шляхотных навукаў, каб выбавіць чалавека ад зла і накіраваць ягоную інтэлігэнцыю да большае дасканаласьці, дык навука астраноміі гэта можа зрабіць больш вычэрпваюча, чым іншыя навукі».

Ёсьць праўдаю, што Капэрнікава астраномія зьяўляецца сапраўднаю навукаю аб тайне сусьвету, які так добра створаны, і які кіруецца Божым правідам, дзеля гэтага Капэрнік уважаў, што гэтая навука павінна выцягнуць чалавека са зла і давесьці аж да такое маральнае дасканаласьці, каб магчы сузіраць самога Бога, як Найвышэйшае Дабро.

Капэрнік меў так-жа вельмі моцную веру ў Ісуса Хрыста, а Хрыстовую Царкву лічыў прадаўжэньнем Хрыстовае місыі. Меў так-жа вялікую пабожнасьць да сьвятых і асабліва да сьв. Адальбэрта біскупа і мучаньніка і называў яго айцом і апосталам Польшчы.

Будучы гэніяльным вучоным, Капэрнік быў на толькі сьціплым, што ацэнку свайго адкрыцьця пакінуў вучоным матэматыкам і перадусім папе Паўлу 3-му, якому прысьвяціў найбольшы твор свайго жыцьця. Аб гэтым ён так піша ў тым прысьвячаньні: «Аб тым, што я зрабіў у гэтых справах, вынікі мае працы я пакідаю на суд усім іншым вучоным матэматыкам і перадусім Вашай Сьвятасьці . . .»

Вось-жа з гэтых думак і цытатаў, узятых з кнігі Капэрніка «Аб абаротах нябесных сфэраў», відаць вельмі ясна ягоная глыбокая вера ў Бога і шчырая пабожнасьць. Тым самым ён зьяўляецца прыгожым прыкладам, як вялікі вучоны можа спалучыць сваю навуковую працу із шчыраю рэлігійнаю вераю. Калі бязбожнікі стараюцца апраўдаць сваё бязбожжа навукаю, асоба Мікалая Капэрніка зьяўляецца вымоўным выяўленьнем беспадстаўнасьці тых намаганьняў.

*Л. Г.*

---

## *З беларускага жыцьця*

*а. Аляксандар Надсон*

# За два гады

(Крыху пра Бібліятэку і музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане).

Два гады таму назад, 15 мая 1971 г., у Лёндане была адчынена Беларуская бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны. У сувязі з гэтым была выданая на ангельскай мове невялікая кніжка, у якой расказвалася пра гісторыю паўстаньня бібліятэкі, яе кніжныя і рукапісныя фонды, а таксама прадметы музэйнай вартасьці. Мэтай гэтага артыкулу ёсьць даць короткія весткі пра рост і дзейнасьць бібліятэкі за два гады, якія мінулі ад часу яе адчыненьня.

Галоўным багацьцем кожнай бібліятэкі

зьяўляюцца яе кніжныя фонды. Бібліятэка імя Францішка Скарыны мела першапачаткова каля 10 000 кніг. За два гады яе фонды павялічыліся на 800 новых назваў. Большасьць з іх — гэта новыя выданьні на беларускай і іншых мовах. Удалося аднак набыць даволі многа старых рэдкіх кніг. Перадусім значна узбагаціўся скарынінскі аддзел. Сёньня бібліятэка ўжо мае мікрафільмы ўсіх скарынінскіх выданьняў. У галіне скарыніяны трэба найперш успомніць кнігу Тэзэо Амброзіё Альбонэзі «Introductio in chaldaicam linguam», выданую ў Павіі (Італія) ў 1539 г. Гэтая рэдкая і дарагая кніга, якую падарыў бібліятэцы адзін ангельскі вучоны з Оксфарду, цікавая для беларусаў тым, што ў ёй знаходзіцца у транскрыпцыі лацінскім алфавітам скарынінскі тэкст з Кнігі І Царстваў. Другая цікавая кніга — падарак двух амэрыканскіх вучоных — гэта «Biblical Researches and Travels in Russia», выданая ў Лёндане ў 1826 г. Аўтар яе, шатляндскі біблiст і мовазнаўца Э. Гэндэрсон, быў адным з першых паважных дасьледчыкаў скарынінскага перакладу Бібліі, параўнаўшы яго з тэкстамі грэцкім, лацінскім, царкоўнаславянскім і гэбрайскім. Апрача гэтых дзьвюх старых кніг бібліятэка атрымала некалькі новых выданьняў, сярод іх кнігу «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» М. Прашковіча (Мн. 1970) і альбом «Гравюры Франциска Скарыны» (Мн. 1972).

Кніга Тэзэо Амброзіё не зьяўляецца адзіным старадрукам у бібліятэцы. Апрача яе ёсьць «Sarmatiae Europeae Descriptio» Аляксандра Гваніні (Спіра 1581), Мамонічавыя польскія выданьні Трыбуналу (Вільня 1616) і Літоўскага Статуту (Вільня 1619) і «Historiae Lituanae» А. Каяловіча (Гданск 1650 — Антвэрпэн 1669). Ёсьць таксама некалькі цікавых выданаьняў XVIII стагодзьдзя. У мінулым годзе бібліятэка купіла на ліцытацыі ў Лёндане кнігу «Новый Завет», выданую ў Кутэіне ў 1652 г. Асноўны тэкст кнігі на царкоўнаславянскай мове, але прысьвячаньне праваслаўнаму япіскапу Віцебскаму і Магілёўскаму Язэпу Гарбацкаму, прадмова да чытача і камэнтары да тэксту напісаны па-беларуску. Кніга, якая захавалася ў добрым стане і ў арыгінальным пераплёце, упрыгожана гравюрамі, застаўкамі і ініцыяламі, зробленымі мясцовымі мастакамі. Некаторыя гравюры, як відаць з напісаў, зроблены ў 1651 годзе, магчыма спэцыяльна для гэтага выданьня. Усё гэта робіць «Новый Завет» выдатным помнікам беларускага кнігадрукаваньня XVII стагодзьдзя.

Аддзел гісторыі мае кала 2000 назваў кніг. Сярод іх ёсьць самыя новыя выданьні, як напр., два першыя тамы пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» (Мн. 1972), ці «Belorussia under Soviet Rule» І. Любачкі (Унів. выд. Кэнтакі, 1972). З старых рэдкіх кніг, якія ўдалося дастаць апошнім часам, варта ўспомніць першае друкаванае выданьне «Судзебніка караля Казімера» (Вільня 1826), «Акты Западной Росии» (Спб. 1846—53), «Обозрение истории Белоруссии» Турчыновіча (СПб. 1857), «Сведения о польском мятеже 1863 г.» Ратча (Вільня 1867), «Poczet rodów w W. Ks. Litewskim» Банецкага (Варшава 1883), «Powiat Oszmianski» Янкоўскага (Пецярбург 1896) і інш. Вельмі цікавая выданая ў Менску ў 1918 г. Сакратарыятам замежных спраў БНР кніжачка «Усходняя Беларусь», якую бібліятэка атрымала ў падарку ад аднаго беларуса. Вялікае значэньне для гісторыі Царквы ў Беларусі маюць трохтомныя «Записки Иосифа, митрополита Литовского» (СПб. 1888), купленыя бібліятэкай у канцы 1971 г. Прыблізна ў тым самым часе бібліятэка купіла «Rocznik tatarski», том II (Замасьць 1935). Гэтая кніга, якая мае шмат цікавых матар'ялаў з гісторыі беларускіх татараў, была выданая тыражам у 250 экзэмпляраў і сёньня зьяўляецца вялікай бібліяграфічнай рэдкасьцю. Першы том «Рочніка» (Вільня 1932) бібліятэка мела ўжо раней.

Аддзел этнаграфіі ўзбагаціўся такімі кнігамі, як «Калеки перехожие» Бяссонава (Масква 1861), «Lud białoruski», том І, Федароўскага (Кракаў 1897) і гадавік часопіса «Живая старина» за 1901 год з цікавай працай Марыі Косіч «Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни». Ёсьць таксама ўсе новыя выданьні, у тым ліку працы Бандарчыка па гісторыі беларускай этнаграфіі (усяго тры кнігі) і пяць першых тамоў шматтомнага выданьня «Беларуская народная творчасьць».

У аддзеле мовы ганаровае месца займае атрыманы зусім нядаўна «Словарь белорусского наречия» Насовіча (СПб. 1879) і трэці том «Беларусаў» Карскага. Гэтую апошнюю кнігу падарыў бібліятэцы адзін ангельскі вучоны. Іншым рэдкім выданьнем зьяўляецца «Sieben-Sprachen Wörterbuch», або слоўнік нямецкай, польскай, расейскай, беларускай, літоўскай, латышскай і ійдыш моваў, выданы ў Лайпцыгу ў 1918 г. нямецкім галоўным ваенным камандаваньнем. Вельмі цэнны падарак зрабіў бібліятэцы адзін беларус у выглядзе чатырох слоўнікаў з сэрыі «Беларуская навуковая тэрміналёгія», якую выдаваў у 20-тых гадах Інстытут беларускай культуры. Наогул у аддзеле мовы ёсьць каля 300 назваў кніг, сярод іх такія малатыражныя ратапарныя выданьні, як «Беларусские тексты, пи-

санные арабскім пісьмом» Антановіча (Вільня 1968), «Пытанні мовазнаўства і методыкі выкладання моў» (Мн. 1965), «Беларуская лексікалогія і этымалогія» (тэзісы дакладаў, Мн. 1968), «Беларуская мова і літаратура ў ВНУ» (тэзісы дакладаў, Брэст 1971), «Беларуска-украінскія ізалексы» (Мн. 1971). Да гэтай групы трэба таксама залічыць «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласьці» Т. Сцяшковіч (Мн. 1972).

Бібліятэцы таксама ўдалося дастаць многа кніг, якіх няма ў каталёгах «Міжнароднай кнігі», як напр.: «Слоўнік усходняй Магілёўшчыны» Бялькевіча (Мн. 1970), «Матэрыялы для слоўніка Мінска-Маладзечанскіх гаворак» пад рэд. М. Жыдовіч (Мн. 1970), «Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы» пад рэд. Ф. Янкоўскага (Мн. 1960). «Пытанні беларускай тапанімікі» (Мн. 1970), «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы» (Мн. 1971), «Прадуктыўныя тыпы дзеясловаў у сучаснай беларускай мове» М. Васілеўскага (Мн. 1970), «Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў беларускай мове» В. Чэкмана (Мн. 1970), «Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове» А. Міхневіча (Мн. 1965), «Беларускае і славянскае мовазнаўства» (Зборнік у гонар К. Крапівы, Мн. 1972) і шмат іншых. Цікавыя таксама польскія кнігі «Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny» Э. Смулковай (Вроцлаў 1968) і «Teksty gwarowe z Białostocczyzny» пад рэд. А. Абрэмбскай-Яблонскай (Варшава 1972).

Самы багаты ў бібліятэцы аддзел беларускай літаратуры. У ім больш як 2000 назваў кніг мастацкай літаратуры і 300 літаратуразнаўчых прац. Найбольш цэннай кнігай зьяўляецца зборнік «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы (Пецярбург 1913), які падарыў бібліятэцы адзін беларус з Амэрыкі. Той самы беларус даў яшчэ дзьве іншыя рэдкія кнігі: «Васількі» Ядвігіна Ш. (Вільня 1914) і «Дзьве душы» М. Гарэцкага (Вільня 1919). Сярод іншых рэдкіх выданьняў, якія бібліятэка дастала апошнім часам, ёсьць «Гапон» і «Вечарніцы» Дуніна-Марцінкевіча (выд. «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург 1908), «Вялікодная пісанка» (Вільня 1914), «Апошняе спатканьне» Ул. Галубка (Вільня 1919), «Няскончаная драма» Ф. Аляхновіча (Вільня 1922), «Бярозка» Ядвігіна Ш. (Вільня 1923), «Ня розумам сьцяміў, а сэрцам» К. Вясёлага (Вільня 1927), «Хлапец» В. Адважнага (Вільня 1935) і інш. З раньніх перакладаў на беларускую мову ёсьць «Казка аб вадзе» Бэльлямі (Вільня 1907), «Архіп і Лявонка» М. Горкага (Вільня 1910) і «Кацярына» Тараса Шаўчэнкі ў перакладзе Ф. Чарнышэвіча пад рэдакцыяй Янкі Купалы (выд. «Палачанін», 1911). Пералічыць усе новыя кнігі, атрыманыя бібліятэкай, няма ніякай змогі і таму прыходзіцца агранічыцца некалькімі прыкладамі літаратуразнаўчых прац: «Гісторыя і сучаснасць» (Мн. 1968) і «Пуцявіны роднага слова» (Мн. 1971) С. Александровіча, «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» Р. Гульман (Мн. 1971), «Янка Купала і беларуская паэзія» М. Яраша (Мн. 1971), «Янка Купала і беларускі тэатр» А. Есакова (Мн. 1972), «Народныя песьняры» (Мн. 1972), «Дарогамі Максіма» А. Бачылы (Мн. 1971), «Падарожжа ў XIX стагоддзе» А. Мальдзіса (Мн. 1969), «Беларуская паэма ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя» М. Лазарука (Мн. 1969), «Пясняр народных дум» Я. Шарахоўскага (Мн. 1970), «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры» Н. Перкіна (Мн. 1971) і шмат іншых.

Апошнім часам бібліятэка атрымала многа новых кніг з археалёгіі, геаграфіі, мастацтва, музыкі, педагогікі, бібліяграфіі і г. д. Значна павялічыўся таксама лік мікрафільмаў рэдкіх выданьняў, асабліва беларускіх старадрукаў.

Бібліятэка атрымлівае рэгулярна 40 перыядычных выданьняў на беларускай мове, сярод іх 8 новых назваў: «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Летапіс друку БССР», «Новыя кнігі БССР», «Служба быту Беларусі», «На экранах Беларусі», «Родная прырода», «Беларуская лінгвістыка» і «Веснік БДУ»».

Найбольш цікавым набыткам у аддзеле рукапісаў зьяўляецца архіерэйская літургія на царкоўнаславянскай мове з паралельным лацінскім перакладам. Рукапіс, напісаны беларускім скорапісам XVII стагодзьдзя, паўстаў у вуніяцкім асяродзьдзі. Япіскап Тодар Скумінович (памёр у 1668 г.), які меў тытул суфрагана беларускага, падарыў яго царкве сьв. Сергія і Бакха ў Рыме, якая належала тады беларускім базыліянам. Бібліятэка купіла рукапіс у мінулым годзе на ліцытацыі ў Лёндане.

Фонды бібліятэкі імя Францішка Скарыны сёньня зьяўляюцца даступнымі для ўсіх, хто цікавіцца Беларусьсю і духовай культурай беларускага народу. За два гады існаваньня бібліятэкі у ёй працавалі многія вучоныя і студэнты з усіх краінаў Эўропы, а таксама з Амэрыкі, Канады, Аўстраліі і Ізраіля. Многія іншыя зьвяртаюцца да яе пісьмова з рознымі просьбамі і запытаньнямі. Бібліятэка стараецца задаволіць усіх, служачы радай і інфармацыяй, а таксама патрэбнымі матар'яламі. Дзякуючы сувязям з многімі бібліятэкамі

сьвету, яна можа часта дапамагчы знайсьці матар'ялы, якіх ня мае у сваіх фондах.

Сёньня Бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьяўляецца адной з найбольш паважных беларускіх культурных установ на Захадзе. Многія беларусы — і ня толькі беларусы, — зразумелі яе значэньне і далі ей сваю падтрымку у форме грашовай ахвяры, або аддаючы ей свае кнігі, часам вельмі рэдкія і вартасныя. З ростам бібліятэкі аднак растуць і яе патрэбы, і таму трэба спадзявацца, што гэтая падтрымка ў будучыні ня толькі ня зьменшыцца, але будзе стала узрастаць.

*

ХРОНІКА:

### АЎДЫЕНЦЫЯ БІСКУПА Ч СІПОВІЧА У ПАПЫ ПАЎЛА VI

На пачатку гэтага году Біскуп Ч. Сіповіч прабыў у Рыме блізка месяц часу дзеля розных справаў, зьвязаных з ягоным абавязкам Апостальскага Візытатара беларусаў каталікоў.

Біскуп Чэслаў быў такжа прыняты Паўлам VI на прыватнай аўдыенцыі дня 22 лютага 1973 г.

Папа, як Галава Каталіцкае Царквы, жадае, каб беларусы каталікі, як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне, мелі поўную рэлігійную апеку. Папа прыняў Біскупа Сіповіча з вялікай увагаю і ласкавасьцю. Ватыкан добра паінфармаваны ў беларускіх праблемах і жадае зрабіць для беларусаў усё, што толькі ў цяперашніх абставінах магчыма.

Для маткі Біскупа Чэслава і для некаторых іншых асобаў Папа падараваў прыгожыя ражанцы, а для айца Язэпа Гэрмановіча, якога атрымаў кніжку ў італьянскім перакладзе, перадаў асаблівае багаславенства.

Біскуп Ч. Сіповіч быў такжа прыняты іншымі Кіраўнікамі Ватыканскае Курыі, як Кардыналам Вільёт, Кардыналам Фюрстэнбэрг, Архібіскупамі Казаролі і Брыні.

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 27 лютага ў Лёндане а. Рабэрт Тамушанскі прачытаў даклад на тэму «Нямецкія лексічныя запазычаньні ў беларускай мове XVI—XVII стагодзьдзяў». 27 сакавіка сп. Джэймс Дынглей з Рэдынгскага ўнівэрсытэту гаварыў пра «Грошы і манэтныя двары ў Вялікім княстве Літоўскім». Др. Арнольд МакМільлін з Лёнданскага ўнівэрсытэту зрабіў даклад 1 мая на тэму «Некаторыя пытаньні беларускага вершаскладаньня». Усе тры даклады былі часткаю сёмага курсу беларусаведы, зарганізаванага Англа-беларускім таварыствам.

### ПРЫКЛАД, ГОДНЫ ПЕРАЙМАНЬНЯ.

Сп. Аляксандар Ражанец з Лёндану падарыў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны сваю калекцыю кніг з беларускай літаратуры і навейшай гісторыі Беларусі. Сярод агульнага ліку больш за сотню кніг было многа такіх, якіх раней не было ў фондах бібліятэкі.

---

*А. Калубовіч*

# Магілёў у Паўночную вайну

**(Паводля летапісу Магілёва)**

*Нам продкаў кемкасьць захавала*
*Шмат весьцяў дзіўных з быўшых год,*
*Хоць гэтых весьці ўжо нямала*
*Ў няпамяць кінуў сам народ.*

Я. Купала. Магіла льва

Канец XVII — пачатак XVIII ст.ст.

На высокай крутой гары пры ўтоку р. Дубровенкі ў Дняпро стаяў замак, які ўпяршыню, згодна Баркулабаўскага летапісу, «зароблен... лета 1526», калі пад ягоную будову было «принято много горы Могилы, на которой... замок Могилев стоить». Да замку прылягаў галоўны рынак із шматлікімі крамамі й складамі. Побач — ратуша. А вакол на скатах гары таго-ж правага берагу Дняпра й на поймах задняпроўя шырака раскінуліся пасады.

Як на тыя часы, Магілёў быў немалым местам, а ў Імсьціслаўскім ваяводстве, куды належыў — найбольшым. Ён меў болей за 10.000 жыхароў, каля 3.000[1]) дамоў і іншых будынкаў. Яго ўпрыгожвалі 4 праваслаўныя й 2 каталіцкія манастыры, 13 цэркваў і 2 касьцёлы. Галоўная частка места была абнесеная абароннымі равамі й сьценамі, якія для ўезду сюды адчынялі 11 брамаў. Брамы мелі прыгожы архітэктурны выгляд, звонку й знутры аздобленыя разьбой і малярствам. Найстарэйшая зь іх, Алейная, была блізка ратушы й зьвязвала рынак зь Мікольшчынай. Самая прыгожая, Каралеўская, стаяла каля Уваскрэсенскай царквы. Усярэдзіне яна была абкладзеная чорным мармурам, а ўваход у яе ішоў праз пад'ёмны мост.

Ад 1574 г. Магілёў самакіраваўся магдэбурскім правам.

---

[1]) Ведама, што ў 1604 г. ужо меў 2.121 дом

З гледзішча эканамічнага ён быў адным із цэнтраў раместнай вытворчасьці й гандлю ў Беларусі. Рамесьнікі ягоныя, паводля прафэсіяў, гуртаваліся ў 21 цэх. Найбольш славіліся скуранымі й футравымі вырабамі й піваварствам. На магілёўскім рынку (дзе ўжо ў 1595 г. было «крамовъ з великими скарбами 400»[2]) тавары скупалі купцы ўсіх найбольшых местаў Беларусі. Магілёўскія купцы мелі свае крамы ў Шклове, Бабры, Талачыне, Бабруйску, Крычаве, Гомелі й іншых месцах. Яны вялі гандаль з Украінай, Польшчай, Прусамі, Расеяй, Малдавіяй і Канстантынопалем; а праз балтыцкія парты — з краямі Заходняй Эўропы. У замежных местах мелі свае кватэры й фактуры, дома былі аб'яднаныя ў купецкі цэх — брацтва.

Магілеў быў адным із царкоўных цэнтраў і цэнтраў асьветы й мастацтва ў Беларусі.

Тут была сталіца Магілёўскай праваслаўнай эпархіі, у Пячэрскім манастыры за местам — япіскапская рэзыдэнцыя. У ім былі дзьве калегіі: пры манастыры Спаскай катэдры ад 1597 г. — праваслаўная, пры язуіцкім манастыры — язуіцкая. Пры Брацкім Багазьяўленскім манастыры ад 1616 г. працавала друкарня. Якраз у кан. XVII — пач. XVIII ст.ст., калі ёю кіраваў радца магістрацкі М. Вашчанка, друкарня была асабліва дзейнай. У 1697 г. яна выдала часаслоў, у наступным, 1698 г. — акафісты й «Діоптру», у 1699 — «Небо новое» І .Галятоўскага й «Перло многоцѣнное» К. Стаўравецкага, у 1700 — Ірмалог, у 1701 — часоўнік, у 1702 — вялікую ў 657 поўных аркушаў кнігу жыцьця сьвятых, у 1703 — часаслоў і псалтыр...

Тут былі свае пісьменьнікі й паэты. У сяр. XVII ст. у Магілёве жылі ведамы друкар і пісьменьнік — рэктар праваслаўнай калегіі Сьпірыдон Собаль, прафэсары калегіі — паэта Ігнат Іеўлевіч, паэта й філёзаф Ян Андрэй Белабоцкі. У кан. XVII ст тут быў уложаны пабеларуску Пралог на ўсе 12 месяцаў, перакладзены ў беларускую мову Кіева-Пячэрскі Пацярык рэдакцыі былога Магілёўскага япіскапа й пісьменьніка Сыльвэстра (Косава). Тут вёўся летапіс Мегілёва. Пачаў яго ад 1267 году на аснове дакумантаў, а пазьней і як сьведка-летапісец старшыня купецкага брацтва Трахім Сурта. Ад 1701 г. прадаўжаў яго рэгэнт магістрата Юры Трубніцкі.

Менавіта ў гэтым часе тут да пэўнага росквіту дайшлі архітэктура, малярства, графіка й іншыя віды мастацтва. Магілёўскія дойліды Ігнат, Хвеська, Недасек толькішто завяршылі пабудову новае ратушы із арыгінальнай шматяруснай вежай. На беразе Дняпра ў Мікольшчыне для Мікалеўскага манастыра ў стылі беларускага барока пабудаваная новая царква. Побач язуіцкага манастыра вырас новы корпус язуіцкай калегіі, а комплекс Брацкай царквы й манастыра ўзбагаціўся мастацкай званіцай із слынным гадзіньнікам, змайстраваным манахам Макарам. Як і ўва ўсёй Беларусі, тут квітнела праслаўленае далёка за межамі Беларусі разьбярства па дрэву — г. зв. «беларуская рэзь». Цудам тэтага віду мастацтва быў іканастас новай Мікалаеўскай царквы. Тады-ж перажывала росквіт і магілёўская малярская школа, галоўна — іконапіс, із стылізацыяй у ім беларускіх краявідаў і нацыянальнага арнамэнту на вопратцы сьвятых; у графіцы — мастацтва гравюраў на дрэве й медзі, у якім гравёры й друкары Максім Вашчанка, сын ягоны Васіль, Хведар Ангілейка й іншыя тварылі магілёўскую школу кніжных гравюраў, якімі аздаблялі выданьні магілёўскай і слуцкай друкарняў.

Вонкавы выгляд Магілёва, ягонае багацьце й узровень разьвіцьця мастацтваў адзначалі чужаземныя падарожнікі. Чэх Бэрнард Таньнер у 1678 г .заўважыў, што «Магілёў складаецца із дамоў. упрыгожаных чымсьці падобным на абразы, мастацкія й цудоўныя». В. Чантурыя думае, што тут «мова пра ўпрыгожаньне фасадаў лепкай, а, мажліва, і малярствам»[3]). Расейскі стольнік П. Талстой у 1697 г. у сваіх падарожных нататках пісаў: «...Горад Магілёў вялікі, і пасады каля яго вялікія. У пасадах мноства садоў. А ўвесь ён шмат большы за Смаленск... На пасадзе шмат багатых мяшчанскіх дамоў мураваных і шмат добрай будовы драўляных... Вуліцы брукаваныя дзікім каменем. Шмат гандлёвых радоў, а ў іх поўна ўсялякага тавару. Крамы ў радах мураваныя». 31-га сакавіка, у сераду на вялікім тыдні, ён быў у царкве Брацкага манастыра на сьвяточнай літургіі. Яго ўразіла краса царквы, дзе «Усе сьцены расьпісаныя выдатным насьценным росьпісам. Іканастас — разьбяны, пазалочаны, вялікі, наштадзённай працы... Сьвятыя абразы пры слупох таксама прыгожага пісьма й аздобленыя ў багатыя аправы... На вялікім тыдні іканастас і ўсё абразы былі завешаныя вішнёвай крашанінай, а па ёй добрым пісьмом, жыва, намаляваныя пакуты Хрыста»[4]).

...Ішлі гады за гадамі. Магілёў жыў сваім кіпучым жыцьцём. А летапісцы ягоныя ўсё найбольш адметнае ўпісвалі ў летапіс[5]). Так, відаць, было і ў той вечар, калі ўбелены гадамі пачцівы купецкі старшыня Т. Сурта, вярнуўшыся дадому із ношаю яркіх уражаньняў дня, ясьней звычайнага запаліў сьвечкі, разгарнуў фаліянты

---

[2]) Баркулабаўскі летапіс, пад 1595 г.

[3]) В. А. Чантурия. История архитектуры Белоруссии, Минск, 1969, б. 85.

[4]) Белоруссия в эпоху феодализма, АН БССР, т. 2, Минск, 1960, бб. 461—462.

[5]) Мы будзем цытаваць яго паводля выпісак ігум. Арэста. Пераклад у сучасную беларускую мову — наш.

летапісу й ужо дрыжачай рукой зрабіў у ім адзін із апошніх сваіх запісаў:

«1699 году, месяца сьнежаня. Перад самымі Колядамі ў Магілёў прыбыў праўялебнейшы Серапіён (Пальхоўскі), япіскап Магілёўскі, Імсьціслаўскі й Аршанскі, архімандрыт Слуцкі, намесьнік мітраполіі Кіеўскай і экзарх сьвяцейшага Апостальскага пасаду Канстантынопальскага.

Пры ўезьдзе ў места яго праўялебнасьць быў спатканы магілёўскім сьвятарствам у царкоўных рызах і з царкоўнымі харугвамі. А таксама магістрацкім урадам. Купецтвам — усім і меставым брацтвам купецкім із харугвамі ў авангардзе на верхавых конях колькі сот парадна апранутых. Зь вялікай асістэнцыяй цырыманіяльна ўсімі магілёўскімі цэхамі із цэхавымі харугвамі, стрэльбамі, гарматамі.

Грымела гарматная пальба. Ува ўсіх меставых прыхадзкіх і манастырскіх цэрквах білі ў званы»[6]).

Але вось зусім нечакана ў 1700 г. пачалася новая — Паўночная вайна. Яе выклікала жаданьне Расеі захапіць прыбалтыку, якая тады належыла Швэцыі; гаварылася, што яна ўзьняла свой меч, каб «прарубіць сабе вакно ў Эўропу».

Да восені 1704 г. вайна не зачапіла Беларусі, калі ня браць на ўвагу праходу часткі швэдзкага войска праз Горадню ў Польшчу й Саксонію.

У Вялікім княстве Літоўскім, незадаволеным фэдэрацыяй із Польшчаю, на чале з адным із найбольшых беларускіх магнатаў вялікім гэтманам кн. Казімерам Сапегаю паўстала група, якая ўплянавала пры дапамозе Швэцыі аддзяліцца ад Польшчы. У гэтым кірунку рабіліся дыпляматычныя й вайсковыя прыгатаваньні, зьбіраліся патрыятычныя сілы.

Блізка Магілёва (у Быхаве, Галаўчыне, Дуброўне) паплечнікі Сапегі — Юрэвіч, Хмара, Більдзюкевіч — із сялянаў фармавалі асобныя казацкія аддзелы. У Магілёве на выпадак расейскай агрэсіі дадаткова ўзмацнялі абаронныя збудаваньні! Перад тым тут усё места паза Шклоўскім, Віленскім і Задубравенскім пасадамі (дугою ад Дняпра да Дняпра) і левабярэжныя пасады Лупалава й Траецкае былі абнесеныя земляньымі валамі із вежамі на іх. Улетку 1704 г., на загад і кошты магістрату, пад кіраўніцтвам начальніка магілёўскага гарнізону палкоўніка Шаўні сьпешна рубілі драўляныя тыны, насыпалі новыя валы. Ад гары Гваздоўкі па берагу р. Дзебры, уздоўз Дзебранскага тыну, да самага Дняпра і ў Дняпро да сярэдзіны, а таксама і ў заРэччы ад Лупалава забівалі дубовыя палі. Такія-ж фартыфікацыі рабілі й на ніжнім цёку Дняпра, за Папенскім пасадам.

Працы гэтыя яшчэ ня былі закончаныя, як Расея, згаварыўшыся з групаю палякоў, прыхільнікаў скінутага караля Аўгуста II, уварвалася із сваім войскам у Беларусь. Сьпярша ў раён Полацка. а ў 1706 г. быў заняты й Магілёў. Войска сваё із занятых раёнаў Беларусі яна ня вывела й тады, калі Аўгуст II пад ціскам вайсковых удачаў швэдаў зрокся кароны на карысьць новага караля Станіслава Ляшчынскага й як курфюрст Саксоніі 24. IX. 1706 г. падпісаў мір із Швэцыяй.

На ўсход ад Менску толькі адзін Быхаў ня быў пад кантролем Расеі. Будучы добра ўмацаванай цытадэльлю, ён меў у колькі тысяч гарнізон пад камандаю гэнэрала Бонча-Сініцкага, найбліжэйшага паплечніка Сапегі. 31. III. 1707 г. Пятро I загадаў свайму гэнэралу Р. Боуру, палкі якога былі разьмешчаныя ў раёне Магілёва, «иметь бодрое око» на Сініцкага. Адзінае, што мог зрабіць Боур — аблажыць Быхаў і паспрабаваць узяць яго штурмам.

Цэлы месяц ад канца чэрвеня штурмаваў ён Быхаў. Із падкопамі сьценаў, узрывамі й праломамі іх. Адважна бараніўся беларускі гарнізон. У канцы ліпеня Быхаў быў узяты й увесь спалены. Эпілёг гэтага гераічнага эпізоду вайны Ю. Трубніцкі падрабязна апісаў у летапісе:

«Калі Сініцкіх везьлі праз Магілёў, то сьпераду іх ішла пяхота із аголенымі мячамі вайсковым маршам, знарачыта цырыманіяльным, із гучнай музыкай і барабанным боем. За пяхотаю ехала гвардыя, колькі палкоў, таксама із аголенымі мячамі Тады ехалі на верхавых конях 14 падпрапаршчыкаў, якія везьлі захопленыя штандары Сініцкага — 8 даўгіх і 6 кароткіх. За штандарамі, валочанымі па зямлі, былі везеныя на адным невялікім возе абодва Сініцкія, закутыя ў жалезныя ланцугі . . . За возам Сініцкіх, ззаду, із аголенымі мячамі цырыманіяльна ішла коньніца й пяхота.

Такая цырымонія была ўчынена для большае зьнявагі й пагарды.

Пераправадзіўшы зь ёю Сініцкіх праз Магілёў і выйшаўшы праз Шклоўскую браму на прадмесьце, расейскае войска спынілася на адпачынак і абед. Тады старэйшы Сініцкі, заклікаўшы ксяндза, спавядаўся й прычашчаўся. Ён быў каталікам .А малодшы Сініцкі, падстолі, хоць і быў намаўляны ксяндзамі прыняць каталіцкую веру, не схацеў рэвакаваць. Ён быў кальвінам.

У часе абеду старэйшы Сініцкі прысылаў . . . у магістрат із просьбаю, каб магістрацкія ўрадоўцы купілі яму шапку для начнога спаньня. І магістрацкія ўрадоўцы купілі яму добрую шапку, уклалі у яе грошы 200 залатовак . . . і адаслалі

[6]) Археографическій сборникъ докуметовъ, относящихся къ исторіи Сѣверозападной Руси, издаваемый при Управленіи Виленскаго учебнаго округа, т. 2, Вильна, 1867 г., Приложеніе: Записки игумена Ореста, б. XXXIII.

магістрацкім шафарам. А самі не адважыліся йсьці да Сініцкага, каб выказаць яму сваё ўтанараваньне. Яны высьцерагаліся не наклікаць на сябе падазраньняў з боку расейскіх ваяначальнікаў.

...Праз колькі дзён пасьля таго расейскія жаўнеры гналі із Быхава праз Магілёў 350 палонных зь пяхоты Сініцкага. Палонныя былі пазбаўленыя сваіх вайсковых мундураў, апранутыя ў падраныя сялянскія сьвіткі й папарна павязаныя за рукі. За кожнымі трыма парамі йшоў расейскі жаўнер із аголеным мячом.

І такім парадкам тыя воі Сініцкага гнаныя былі да Смаленскай мяжы.

Сініцкіх-жа ... із Смаленска адвезьлі ў Маскву ... Із Масквы саслалі ў Сібір, у ссылку, дзе яны доўгі час жылі ў вялікай беднасьці. І адзін із братоў у Сібіры памёр, другі, калі зварʼяцеў, быў вернуты із Сібіры дадому»[7]).

Вайна працягвалася.

На пачатку 1708 г. Кароль XII прывёў сваё войска із Саксоніі на мяжу Беларусі, каб пачаць гэнэральны рух на ўсход. 28-га студзеня ён заняў Горадню, а адтуль праз Ліду й Гальшаны хуткім маршам ішоў далей. 8-га лютага войска ягонае ўжо мінула Смаргонь. Заняўшы лінію Даўгінава—Барысаў, яно пасьля доўгага пераходу спынілася на адпачынак.

Расейскае войска, адступаючы перад швэдамі, кацілася на ўсход. Сярод яго была й кавалерыя гэнэрал-паручыка А. Меншыкава.

«Сакавіка, 14 дня. Расейскі князь Аляксандар Меншыкаў зь вялікай помпай уехаў у Магілёў і ў замак Магілёўскі з мноствам караванаў на вярблюдах і мулах, у васьсьце драбантаў. Сам ён затрымаўся ў замку, а афіцэры ягоныя — у дамах пачэсьнейшых магілёўскіх купцоў і мяшчанаў.

Магілёўскія магістрацкія сябры, ведаючы, што Меншыкаў — чалавек люты й на Магілёў налітасьцівы, у намеры схіліць яго на міласьць, хадзілі да яго із хлебам-сольлю, дарагімі прысмакамі, віном і цукрам; завезьлі яму бочку вугорскага віна, падаравалі вялікую пасудзіну з крышталю, апраўленага ў серабро, гданскае працы вартасьцю ў 1.000 залатовак.

Назаўтра зрана Меншыкаў прыслаў на ратушу свайго сакратара із загадам, каб магістрат «от мала до велика» жыхара места штодня дастарчаў князю рознае пітво й харчовыя прадукты. Хоць Магілёў ад войскаў і ваяначальнікаў ужо быў даведзены да скрайняй беднасьці, аднак вымаганыя Меншыкавым фуражы й прадукты змушаны быў зьбіраць; як на ўтрыманьне самой асобы князя, гэтак і ягонай службы, на ягоныя балі й банкеты.

На загад Меншыкава, яму дастарчалі: вугорскае й францускае віно — бочкамі; мёд і піва — глякамі; буракі, капусту й соль — бочкамі; штодня аднаго вала — жывога, бараноў — колькі дзясяткаў; гусей і курэй — статкамі; хлеб сітны й жытны — штодня па 100 боханаў; гарэлку звычайную й наліўку моцную — мернікамі; мыла для мыцьця бялізны — па колькі фунтаў на тыдзень; рыбу салёную — вазамі, а жывую — колькі было мажліва; рыбу вэнджаную — пудамі; масла — фаскамі; грыбы баравікі — тысячамі; дарагія прысмакі (разынкі, вінныя ягады, міндал) — па колькі дзясяткаў фунтаў; шафран, мускатавыя галкі — лотамі; жалеза на акоў коней і караванаў — пудамі; цыбулю, пятрушку й іншую гародніну — кашамі; перац, інбір і іншыя прысмакі — фунтамі; цытроны й алівы — ахтлінгамі; муку пшанічную самую лепшую — мернікамі; драўляны алей — ахтлінгамі; цукар штодня — галовамі; рыбу асятрыну — цэлымі асетрамі й парубленымі; рыбу саміну — па колькі дзесяткаў фунтаў; булкі печаныя, на рынку прадаваныя — штодня, за выключэньнем сьвятаў; таксама штодзень бліны печаныя грэцкія, на рынку прадаваныя — па колькі дзясяткаў і масла да іх.

А калі здаралася, што чагось із гэтага не ставала, то магістрацкія ўрадоўцы зараз-жа былі браныя пад варту, экзэкутаваныя й штрафаваныя.

Таксама княскія краўцы й рымары ўтрымліваліся меставым коштам, і за шыцьцё вопраткі, за рымарную й кожную іншую працу плаціла места; а таксама й скуры для абіўкі караванаў і для рымарных вырабаў былі купляныя за грошы места.

Усяго дастарчанага Магілёвам на патрабаваньні Меншыкава немажліва ні апісаць, ні зьлічыць. Проста дзіва, як Магілёў мог вытрымаць такія абцяжаньні. Гэты праклятты чарвяк із сваёю службаю, седзячы ў замку ад 14 сакавіка да 19 мая 1708 году, тачыў і абʼядаў места ...

І гэты князь Меншыкаў, жывучы ў Магілёве на такім поўным і раскошным меставым утрыманьні, заміж удзячнасьці, хацеў адпомсьціць Магілёву за зьбіцьцё магілёўскімі мяшчанамі ў 1661 годзе расейскага гарнізону, шукаў спосабаў як-бы схіліць на гэта цара Пятра Аляксеявіча, каб Магілёў вырубіць»[8]).

18-га сакавіка швэдскі кароль перанёс сваю кватэру із Смаргоняў у Радашковічы. Разам зь ім тут былі кароль Станіслаў Ляшчынскі із замежнымі пасламі й гэтман кн. К. Сапега із сваім штабам. 11 тыдняў у Радашковічах была часовая сталіца Швэцыі, Польшчы й Вялікага княства Літоўскага. Тут было вырашана йсьці на Маскву.

---

7) Там-жа, бб. XLVI—XLVIII.

8) Там-жа, бб. LII—LIV.

Сюды прыяжджалі тайныя паслы гэтмана левабярэжнай Украіны Івана Мазэпы, які згадзіўся далучыць сваіх 40.000 казакаў да супольнага паходу за згоду Караля XII на незалежнасьць Украіны па вызваленьні яе з-пад Расеі.

7-га чэрвеня шведы сьцягнулі свае сілы пад Менск і адсюль пачалі наступ. 3-га ліпеня ў баі пад Галаўчыном яны разьбілі расейскае войска, а 7-га ўвайшлі ў Магілёў.

«Калі шведы раскінуліся сваім лягерам на высокім беразе Дняпра ад Магілёва да мястэчка Буйнічы, то тады й былы ў тым часе Буйніцкі манастыр занялі сваім лягерам, разагнаўшы манахаў і ўсіх манастырскіх служыцеляў. Манастыр Буйніцкі яны разрабавалі й, разабраўшы ўсе манастырскія будынкі й царкву драўляную Усьпеньня Прасьвятой Багародзіцы, дрэвам тым па балотах і дрыгвяністых месцах парабілі масты.

Усё гэта было зроблена без каралеўскага ведама й загаду.

Аднойчы кароль аб'яжджаў войска й фарпосты. І калі пад'ехаў да аднаго маста, па яму афіцэры, ехаўшыя наперадзе, пераехалі, а каралеўскі конь, хоць і быў змушаны йсьці на мост, не пайшоў. Кароль, зьдзівіўшыся, прыглядаўся да таго маста й, убачыўшы дзьве дошкі, ляжаўшыя на ім, загадаў перавярнуць іх. І калі дошкі тыя былі перавернутыя на другі бок, то на аднэй із іх быў напісаны абраз Спаса, а на другой — Багародзіца. Абодва абразы былі із царквы разабранага Буйніцкага манастыра.

Кароль загадаў абразы адлажыць на бок, а на іхнае месца на масту пакласьці іншыя дошкі. Калі іншыя дошкі былі пакладзеныя, каралеўскі конь пайшоў праз мост.

Пасьля таго кароль, дасьледаваўшы, якой часьці гэта раён, вінаватых зруйнаваньня Буйніцкага манастыра й зьняважаньня сьвятых абразоў двох урадоўцаў сваіх загадаў павесіць, а абразы Спаса й Багародзіцы занесьці на тое месца, дзе быў манастыр»[9]).

4—6 жніўня ён перапраўіў сваё войска на левы бераг Дняпра й узяў кірунак на Імсьціслаў. Пятро I адыходзіў далей на ўсход і ў імя эгаістычных Інтарэсаў Расеі ўсё за сабою пачаў паліць. «Непріятель за нами слѣдовалъ, предъ которымъ наша кавалерія по деревнямъ провіянтъ и на поляхъ стоячій хлѣбъ жгли для оголоженія непріятеля и чтобъ не было оному пристанища»[10]), пісаў ён у сваім дзёньніку. Пра тое-ж паведамляў свайму ўраду францускі пасол дэ Бэзанвальд пры каралю Станіславу Ляшчынскім: «Цар загадаў, каб пры нашым набліжэньні была спаленая ўся мясцовосьць ад мяжы да месцаў у двух мілях ад Смаленска . . . Як мы будзем жыць у гэтай жахлівай пустэльні?»[11])

Швэдзкі манарх яшчэ ня рушыў з-пад Імсціслава на Старадуб і Палтаву, як царскія пажараносцы з боку Горак падкрадаліся пад Магілёў.

«Таго-ж году, верасьня, 2 дня. Зрана, на ўзыходзе сонца, у самае места ўбег мядзведзь — дзікі, лясны, вялікі, чорны. Ускочыўшы ў вадзін сад, хлопчыка забіў, жанчыну параніў. І калі ў другім садзе лёг, мяшчане із мушкетамі абступілі яго й забілі .Усклаўшы на воз, прывезлі да ратушы.

Такую нязвычайную прыгоду найстарэйшыя магілёўчане палічылі за благое прадвесьце.

Хоць швэдзкай арміяй Магілёў і быў абабраны, але дамы, крамы, сьвяцілішчы Божыя — цэрквы й іншыя будовы засталіся цэлымі й непашкоджанымі. Па выхадзе-ж швэдаў расейскі цар Пятро Аляксевіч, будучы незадаволеным магілёўскімі жыхарамі за тое, што яны швэдзкай арміі давалі правіянт і грашовыя кантрыбуцыі, прадпісаў указам татарскаму й калмыцкаму палкам «выжечь городъ Могилевъ».

Атрымаўшы такі ўказ, татарскі і калмыцкі палкі і расейскія жаўнеры 1708 году, верасьня, 8 дня, зрана, на ўзыходзе сонца, падышлі пад места. Абступіўшы яго, яны пазапіралі брамы й ударылі ў барабаны.

Узрушаныя такой неспадзеўкаю, жыхары зьбегліся на трывогу й пачалі прасіць літасьці. Але не маглі ўпрасіць. Тады прасілі адтэрміноўкі хаця-б на адну гадзіну, каб магчы вынесьці хоць што-колечы із сваіх дамоў перад тым, як дамы будуць падпаленыя. На гэта татары й калмыкі згадзіліся, аднак толькі на адну гадзіну.

Каля ратушы яны паставілі сваю варту . . . А ўсе іншыя перад тым, як падпаліць места, адбівалі й рабавалі купецкія крамы, на вуліцах зь мяшчанаў зьдзіралі вопратку, па дамох шукалі грошы, займалі цэрквы й рабавалі іх.

Пасьля таго падпалілі места.

І калі загарэўся замак, ратуша, крамы, катэдральная Спаская, Брацкая, Уваскрэсенская цэрквы, званіцы, касьцёлы — язуіцкі, фарны — і іншыя будынкі места, — тады татары й калмыкі кінуліся на прадмесьце, дзе наўперад разрабалі багацейшыя дамы, а патым падпалілі іх. Таксама й Мікалаеўскую царкву захапілі, куфры мяшчанаў у ёй стаяўшыя паадбіралі, разрабавалі, а царкву падпалілі.

У часе пажару некаторыя мяшчане ад страху крычалі:

---

9) Там-жа, бб. LVII—LVIII.

10) Журналь... Петра Великаго, ч. 1, СПБ, 1770 г., б. 179.

11) Труды Русскаго военно-историческаго общества, т. I, СПБ, 1909 г., № 201, бб. 226—228.

— Масква места вырэзвае! . .

А іншыя, пачуўшы такі крык, думалі, што й узапраўды на загад расейскага цара татары й жаўнеры пачалі секчы ўсіх жыхароў Магілёва. Таму, пакінуўшы ў польмі свае дамы і схапіўшы малыя дзеці, рынуліся наўцёкі із места; адны — у лясы, другія — у пазаместавыя равы, трэція — Холм, іншыя — у Буйнічы й сяло Котуш. У тым часе муж нічога ня ведаў пра сваю жонку, а жонка — пра мужа. Усе ўцякалі, куды хто мог.

Тады ў Брацкай царкве абгарэлі пазалочаныя галовы, пагарэлі калодкі пры званох, але самыя званы й іканастас засталіся непашкоджанымі. Гадзіньнік, што стаяў на Брацкай званіцы, згарэў. Таксама згарэў вялікі абраз Багародзіцы, які ад даўных часоў быў на Алейнай браме. Званы катэдральнай Спаскай царквы — вялікія, мэлядычныя — растапіліся. Уваскрэсенская царква згарэла дарэшты, а звон растапіўся. На Мікалаеўскай царкве былі прыгожыя галовы, а ў сярэдзіне — хоры й дзьверы; усё пагарэла . . . Калодкі пры Мікалаеўскіх званох пагарэлі; а вялікі дзвон упаў на вакно, стукнуўся аб біла й раскалоўся . . . ».

Ад мора агню, бушаваўшага каля Спаскай царквы, загарэлася «Прэабражэнская царква, і ў ёй ляжаўшае ў склепе цела (памерлага перад тым — А. К.) япіскапа Серапіёна згарэла без належнага над ім пахавальнага абраду».[12])

« . . . Пазьней стала ведама, што, калі-б магілёўскія мяшчане прысланым расейскім царом для спаленьня Магілёва татарскаму й калмыцкаму палкам паспрабавалі хаця-б трохі супраціўвіцца ці адважыліся-б із зброяй у руках бараніцца, — то ня толькі агнём, але й мячом места было-б зьнішчанае. Дзеля гэтага ў дзесяці вярстах ад Магілёва на пагатове стаяла колькі палкоў. Але, як магілёўскія мяшчане ня ўчынілі ніякага супраціву, Бог захаваў іх ад мяча».[13])

Гадзіньнік гісторыі адбіў 265 год ад дня таго жудаснага пажару. Вятры часу разьвеялі попел. Але ў скарбах народнай памяці для роздуму нашчадкаў засталася прыказка:

Стуль маскалі, а стуль швяды; дзе падзецца ад такой бяды.

---

[12]) Гэта ўстаўка з б. XXXVII.

[13]) Там-жа, бб. LXI—LXII.

---

## Пішуць да нас

ФРАНЦЫЯ: Я ўжо канчаткова на рэнце і да гэтае пары яшчэ ня выдыхаў зьнямогі вынесянай з фабрыкі. Чуюся дзіўна хворы, так што не патраплю нешта напісаць на «жывую тэму», як Вы казалі ў апошнім пісьме. Мае музы заснулі: вось ужо прайшло нямала часу, як пачаў мой «Пярунскі верш»:

О, Божа!
Дазволь мне ўдарыць пяруном
Па ворагах тваіх
І Бацькаўшчыны нашай любай.

Дазволь маланкай зігацець
І градам сыпаць скрозь па іх,
Што будзе ворагам загубай . . .

*

А Бог нас кліча даравацъ —
Людзям у горы памагаць —
Аж я ламаюся ў сумленьні!

Як вадалаз ў сваім адзеньні,
Паміж акулаў (страх з бядою!)
Так б'юся з імі пад вадою . . .

*

І гэта ўсё — ані воднае літары больш! Калі Бог кліча народы да міру, да любові, даравацъ правіны нават ворагу, то я ў сваім вершу прашу дазволу «сеяць град» на галовы. Ці Бог на гэта дасьць дазвол? — Дарагі Айцец Рэдактар! Яно ёсьць што пісаць, але баюся, што заранья весьці гутарку аб маей «дзіўнай хваробе». Каб Вы былі бліжэй, я ахвотна расказаў бы Вам усё, бо сэрца перапоўненая страхам і любоўю да Стварыцеля неба і зямлі . . . Бог можа пазволіць прывесьці думкі і пераліць іх на паперу, каб надрукаваць у «Божым Шляхам». На гэтым закончу і жадаю здароўя.

Ваш *А. Пярун*

Ад Рэдакцыі: Дзякуем за абяцанае першае пісьмо. Рэдакцыя пазволіла, каб В. А. дапісаў ваш верш да магчымага канца.

*

Дарагія Прыяцелі! Лёнданскія суродзічы, Айцец Язэп, Біскуп і другія, даўно я ня пісаў — хвароба не дае. Цяжка ў Доме Старцаў! Слабшы з кажным днём. Сілу, калі ёсьць, можна па-

казаць, а слабасьці няма як, бо славам мала хто верыць. Мне самому і адзецца і разьдзецца трудна. Трэба шукаць, прасіць . . . часта прыходзяць, але не заўсёды. Пісаць — рукі ня хочуць як паралiжаваныя. Ня ведаю, ці мой ліст зразумееце? Я слабы, але хачу яшчэ жыць. На Імшу іду штогрoна і прыймаю Камунію сьвятую. Пішыце да мяне лісты: вялікая радасьць. Хоць і запозна, «Вясёлага Аллелюя!» жадаю ўсім. На «Божым Шляхам» пасылаю пяцёрку. Добра, калі даляцiць. Даўней прыходзілі да мяне Махначы, Чарнэцкія, Беленісы, іх радня. Цяпер ніхто. Трудна . . быць так забытым. — Цалую Вас усіх, Даражэнькія! Малюся за усіх Вас.

*а. Міхась Урбановіч*

(Увага Рэд.: Ліст без даты з Лемонт, Вілля Голі Фаміліі, ля Чыкаго. Атрыманы 27. IV. 73 і адпісаны — на «вяліку радасьць» забытага Прыяцеля).

---

# Што чуваць на сьвеце?

ВЫБАРЫ:

*У Амэрыцы, у Чылі*
*Галасы тры дні лічылі,*
*А камуне мала-мала*
*Галасоў забракавала!*

*

У ФРАНЦЫІ:

*У нядзелю ад самага рана*
*Сам Маршэ гаварыў Міттэрану:*
*«Марш, Міттэран, у Маскву!»*
*А яму адказаў Пампіду:*
*«Пападзе Міттэран у бяду!»*

*

У ГІШПАНІІ:

ФРАНК да біскупаў:
*«Я плачу вам добрыя грошы,*
*Каб вы ўсе былі мне харошы!»*

А БІСКУПЫ казалі:
*«Лепш хай Бог нам заплаціць —*
*Больш у Яго ёсьць багацьця . . . ».*

*

ГРОШЫ:

*Даляр пасьлізнуўся з размаху —*
*Аж ліра спацела ад страху!*
*У фунце мігрэна старая,*
*А марка свой нос задзірае.*
*Японская ена гарцуе,*
*Рубаль сьпіць — нічога ня чуе;*
*А франк залаты стаў багаты —*
*Да маркі ён едзе у сваты.*
*Гульдэны і пэзы і скуды,*
*Круцэйры — за морам і ўсюды —*
*Бядуюць і рады ня маюць,*
*Што рабіць? — Так даляр падыймаюць!*

НА КІПРЫ:

СЫНОД да Макарыёса:
*«Раз ты наш архірэй, —*
*Кінь сьвецкую ўладу скарэй!*
*Улада табе не пасуе —*
*Інакш ад Царквы адкасуем!»*

МАКАРЫЁС да Сыноду:
*«Калі я ваш архірэй,*
*Дык ты, мой Сынод, ня дурэй:*
*Скажу вам вялікі сакрэт:*
*Скасуйце пасьпешны дакрэт!»*

*

СУЭЗКІ КАНАЛ:

*У Ягіпце, ў Палестыне*
*Спрэчка сем гадоў ня стыгне:*
*Пад камандай Садата — арабы,*
*А жыды — пад камандаю бабы.*
*Ім лякарства Масква добра робе:*
*Паможа як кашаль ў хваробе.*

*

У БРЫТАНІІ:

*З мора газ добра даецца,*
*А з вугля ён чамусьці псуецца:*
*Страйкі йдуць там штодзённа, вядома,*
*У шпіталях, у школах — «Садома»!*
*Скрозь камуны чырвоныя рукі*
*Памагаюць рабіць розны штукі.*

*

У АМЭРЫЦЫ:

*Разгуляліся там дэмакраты*
*Дый працаўнікаў садзяць «за краты».*
*За падслух і за подкуп, за лгарствы,*
*За круцельства, за розны махлярствы . . .*
*Гаварылі там, шмат гаманілі:*
*Суд судзіў, пасьля судзьдзяў судзілі.*
*(На дзюравым масьце раз бяз толку*
*Залатую згубілі іголку;*
*А шукалі яе, каб іх звод! Цэлы год! . . ).*

# Мядзьведзь-дыктатар

«Старасьць — не радасьць!» (Прысл.)

*О, наш мядзьведзь таго не знае,*
*Што старасьць цяжка памірае:*
*Тут нападаюць розны зьдзекі —*
*І дактары, аптэкі, лекі . . .*

*Трываць ня можа старасьць вечна —*
*Яна — хвароба нявылечна:*
*Хоць мэдыцына шмат што можа, —*
*Тут «Моцны Божа,*
*Не паможа!»*

*

*Мядзьведзь у пушчы састарэўся —*
*(Ці недаеў, ці мо' аб'еўся?) —*
*Хадзіць ня можа — аж скрыгоча,*
*А есьці вельмі смачна хоча!*

*Злавіў асла — так прылаўчыўся,*
*Што езьдзіць конна навучыўся. —*
*Настала ў пушчы нова эра —*
*Мядзьвежа сьвежая кар'ера.*

*Як цар, як князь, як каралева*
*Аслом кіруе ўправа-лева,*
*За вушы торгае рашуча —*
*То падганяе, б'е, то вуча.*

*Мядзьведзь сядзіць, як цар на троне,*
*Асёл бяжыць штодня ў прыгоне,*
*Бо ён паслушны патрыёт,*
*(Цярплівы, «вольны» ідыёт!).*

*Казаў мядзьведзь: — Ты чутка слухай,*
*А галавы дарма ня чухай! —*
*Як толькі крыкну табе: «Ну!»*
*Ці як за вушы таргану,*
*Ляці як птушка, як віхор,*
*Ці як маланка, мэтэор.*
*Я за ляніўства буду біць . . . —*
*— Ой-ой, баліць! —*

*Крычаў асёл. Ён плакаў горка,*
*Бо пан-мядзьведзь ня быў як пёрка:*
*Ён важыў добрых пудоў дзесяць —*
*Ганяў асла сто раз у месяц.*

*Асёл дашчэнту быў зтаганы, —*
*Меў на нагах гузы і раны, —*
*Хрыпіць асёл, пакорна просіць:*
*— Не маю сілы . . . досыць-досыць! —*

*Мядзьведзь уладу любіць вельмі:*
*— Я — пан, слуга — ты, цягні, шэльма! —*
*Так мэнажэр, як пугу мае,*
*Зьвяроў у страху ўсіх трымае . . .*

*

*Раз бачуць — жаба на тым шляху.*
*Асёл стаптаць хацеў з размаху —*
*Аж жаба-скок! — ім з цэлай моцы —*
*Аслу і пану проста ў вочы! —*
*Асёл скапыціўся, з ног зьбіўся:*
*Мядзьведзь-дыктатар так разьбіўся, —*
*Паўстала з іх абодвых каша. —*
*Так шчэзла дыктатура наша . . .*

*Так вось гісторыя старая*
*Даўнейшы дзеі паўтарае!*

1. V. 1973. Вінцук Адважны

---

## Цікавае здарэньне

Нядаўна на шашы ля Пракопавіч разыгралася сцэнка, з якой на вёсцы вельмі сьмяюцца . . .

У калгас ехаў чытаць даклад на антырэлігійную тэму вядомы лектар з Літвы, ды заглухла яго легкавая машына. Малады шафёр падняў капот і нахіліўся над маторам, а лектар стаў сюды-туды хадзіць па асфальце ды нецярпліва пазіраць на гадзіньнік — у калгасе чакаў народ, трэба было пасьпяшацца, людзі маглі разысціся.

Раптам да іх падкаціў новенькі ЗІМ і затармазіў. З лімузіны вылез пажылы мужчына.

— Мо памагчы? — спытаўся ён у хлопца. — Што ў вас здарылася? . .

— А ліха яго ведае! — шчыра прызнаўся шафёр. — Заела нешта! . .

— Дай, сынок, зірнуць мне! . .

Мужчына энергічна падышоў да матора. Нешта пакапаўся каля карбюратара, сеў за руль і завёў матор. Праехаўшы пару метраў, чалавек спыніў легкавую і вылез:

— Калі ласка — у парадку!

— Дзякуй! — шчыра зарадаваўся антырэлігійны лектар.

Ён сабраўся ўжо залезці ў сваю машыну, але успомніў:

— Скажыце, каму абавязаны?

— Я радунскі ксёндз.

(А. К а р п ю к. След на Зямлі. Скарбы і здабыткі маей Гродзеншчыны. Мінск, «Беларусь», 1972, стар. 82—83).

# Прымаўкі і прыслоўі

Ад людзей схаваешся, ад сумленьня — не!

Ад леташняга страху валасы не падыймаюцца.

Ад маіх думак другому галава не баліць.

Адна бяда ня ходзіць, другую за сабою водзіць.

Адна дзяка — за рыбу і за рака.

Адна звычка ўсіх гультаёў: рабіць чужымі бакамі, ляжаць на сваіх.

Адна сарочка на мне, а другая ў кубле на дне.

Адна хата і тая без дзьвярэй.

Адною рукою дае, а дзьвюмя адбірае.

Адну казу маю і тую штодзень падымаю.

Адны вочы плачуць і сьмяюцца.

Адным гарбузікам не пад'ясі, а расінкаю не нап'ешся.

Адным кірмаш, а другім і жыцьця нямаш.

Адным сэрцам сьвету не запаліш.

Ад п'янага і шалёны ўцякае.

Ад старасьці і ад сьмерці няма лекаў на сьвеце..

Ад таго мы й пагалелі, што соладка пілі й елі.

Адчыняй варота, едзе чорт з балота!

Ані хлеба, ані табакі — прападаем як сабакі...

Апошняму госьцю лыжка ў качарэжніку.

Арол мухаў ня ловіць.

БРЭЖНЕЎ ЛЯТАЕ...

*Сакратар, відаць, рады ня меў:*
*Бо з Масквы аж у Бон паляцеў! —*
*Брух баліць: «Брант, мне раду давай:*
*Не жалей — маркі мне прыкладай!»*
*«А як не, — пайду дальш у дарогу —*
*Мо' даляры мне лепей памогуць?..*
*Ну, бо маркі кароткія вельмі.*
*А ўсе немцы — скупыя — вы... шэльмы»!*

*

*О, ў Брэжнёва — брух надта шырокі, —*
*Зубы востры, кішэні глыбокі!..*

---

ЗЬМЕСТ:



---


Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14